PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (1886) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 5 ЛІПЕНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ТРАКТАТ ПОЛЬШЧА — БЕЛАРУСЬ

24 чэрвеня ў Варшаве, падчас візіту беларускай дзяржаўнай дэлегацыі ў Польшчы, прэзідэнт Лех Валэнса і старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч падпісалі міждзяржаўны польска-беларускі „Трактат аб добрым суседстве і сяброўскім супрацоўніцтве". У 29 артыкулах трактата даволі падрабязна вызначаны юрыдычныя рамкі развіцця дзяржаўных узаемадачыненняў Польшчы і Беларусі. У прыватнасці, абодва бакі пацвердзілі непарушнасць існуючай дзяржаўнай мяжы і адмовіліся ад выстаўлення адзін аднаму якіх-колечы тэрытарыяльных прэтэнзій як цяпер, так і ў будучыні. У дакуменце падкрэсліваецца, што абедзве краіны будуць развіваць шырокае гаспадарчае супрацоўніцтва. Трактат гарантуе таксама правы нацыянальных меншасцяў (польскай у Беларусі і беларускай у Польшчы) да „свабоднага захавання, развіцця і праяўлення свае этнічнае, культурнае, моўнае і рэлігійнае тоеснасці без якой-колечы дыскрымінацыі".

Падпісанне трактата з Польшчай з'яўляецца для маладой беларускай дзяржаўнай незалежнасці значным дыпламатычным дасягненнем. Яно ўводзіць Рэспубліку Беларусь у сферу еўрапейскага палітычнага працэсу інтэграцыі і супрацоўніцтва, які ў новых паслякамуністычных абставінах спакваля пранікае ў краіны усходняй Еўропы. Акрамя сваёй палітычнай значнасці, трактат павінен займець для Беларусі і болей канкрэтную — у сферы гаспадарчых, культурных і, агульна кажучы, міжлюдскіх дачыненняў. Варта прыгадаць, што Польшча з'яўляецца трэцім па значнасці эканамічным партнёрам Беларусі. Праз Польшчу вядзе дарога (у даслоўным значэнні) у Еўропу. Польскі порт Гдыня мае ў будучыні стацца таксама галоўным портам беларускіх заморскіх гандлёвых дачыненняў. Урэшце, падпісанне палітычнага трактата спрычыніцца да болей разумнага вырашэння гранічнага руху паміж дзвюма краінамі, які цяпер нагадвае, хутчэй за ўсё, стан палітычнай блакады, чымсьці што-колечы іншае. (З нагоды падпісання трактата прэзідэнт Л. Валэнса выказаў надзею, што да 2000 года польска-беларуская мяжа станецца цалкавіта адкрытай).

Для Польшчы гэты трактат абазначае яшчэ адзін крок дапераду на шляху да ўваходу ў еўрапейскую супольнасць, правілы сужыцця ў якой вымагаюць, між іншым, такой якраз рэгуляцыі палітычных дачыненняў са сваімі суседзямі. Як кажуць пры такіх нагодах, абодва бакі застаюцца вельмі задаволенымі станам узаемных стасункаў.

ЯН МАКСІМЮК




*Свята беларускай культуры. На сцэне беластоцкага амфітэатра спяваюць „Васілёчкі". Фотарэпартаж з гэтага мерапрыемства шукайце на стар. 6 - 7.*

*Фота Міколы Ваўранюка.*

## РАНАЎ НЕ ГОІЦЬ І ЧАС

Старэйшыя жыхары Райска расказвалі мне: тады таксама стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е, нават дзень тыдня быў той самы - аўторак.

Немцы акружылі вёску надосвітку. Прыехала іх столькі, што страх, на машынах, у цягніку ды сам Бог ведае чым яшчэ і адкуль. Людзей пазганяліна ўзгорак, пад царкву. Рабілі гэта не спяшаючыся, дакладна, метадычна, хто раней не пакінуў Райска, не ўцёк і цяпер. Каля царквы быў зачытаны прысуд: за тое, што каля вёскі былі забітыя чатыры асобы - тры нямецкай і адна польскай нацыянальнасці - будуць расстраляны дарослыя мужчыны /ад 16 года/, моладзь ад 10 да 16 гадоў будзе вывезена на работу ў Нямеччыну, а ўсім астатнім жыхарам даецца дзве гадзіны, каб сабрацца і пакінуць Райск. Сама вёска будзе спалена датла, мураваныя будынкі - разабраныя, брук - сарваны, дрэвы - спілаваныя, каб і следу па чалавечых сялібах не было, каб і ў памяці нічога не засталося.

Міхал Шыманскі /1932 год нараджэння/ памятае, як немец чытаў: за тое, што раяне дапамаглі падстрэленай нямкіні з дзіцём, жывымі застануцца ўсе маткі з дзецьмі. Але калі пачалі людзей сартаваць і выяўлялася, што кагосьці з сям'і няма, пад расстрэл ішлі за іх сямейнікі, у тым ліку і жанчыны, і моладзь. Разам 149 асоб.

**149 мірных жыхароў Райска** загінулі за тое, што за сялом былі забіты немцы /адны чужыя людзі забілі другіх чужых/, нават не вайскоўцы, а нейкія чыгуначнікі з Лап, якія прыехалі ў нядзелю 14 чэрвеня, з жонкамі і дзецьмі, привезлі цыгарэты, сахарыну, каб памяняць на яйкі, сыр, мяса. Пагандляваўшы ў Райску, паехалі ў Плюцічы. У паваротнай дарозе, ля самых раенскіх могілак, адкрылі па іх агонь з аўтаматаў партызаны, забіваючы на месцы 4 асобы.

Расказваў мне Аляксандр Шыманскі /1915 г. нар./: «Я жыў на хутары, то ў мяне гэтыя партызаны затрымліваліся. А гэтую справу не зрабілі якіясьці вайсковыя, толькі свае, якія пры іх путаліся. Адзін Тымінскі з Плёскаў, а другі з Гукавіч, прозвішча не помню, Капейкай людзі яго называлі, бо ростам быў такі невялічкі. Яны ўжо ў лесе хацелі ўкакошыць тых немцаў, але камандзір ім не дазволіў. Тады яны ціха вышнырнулі з хаты і перапынілі немцаў у паваротнай дарозе, на могілках. Заселі за бэзам і, калі тыя пад'ехалі, пусцілі некалькі чэргаў. Самі схапілі нямецкія валізкі і папёрліся ў бок плёскаўскага лесу, столькі іх тая партызанка абходзіла. А гэтага Капейку бачыў я пасля вайны, як у Бельску дары Унры дзяліў. Вось героі! І да чаго ж яны, сволачы, даваяваліся, якую яны справу зрабілі. Камандзір то мне тады казаў: *Хозяин, пошли с нами, деревни уже нет, дураки деревню сожгли.* Але дзе ж ты пойдзеш, калі ў цябе гаспадарка. Думалася, неяк абыдзецца. Але дзе там, не абышлося».

З хутароў людзей не чапалі, адно будынкі спалілі. Іх жыхары маглі жыць у адной з навакольных вёсак: Храбалы, Плюцічы, Арэхвічы, Храбалы, Гусакі ці Гацькі. Маглі таксама рабіць сваю зямлю. Ацалелых жыхароў вёскі паразвозілі па далейшай аколіцы /каго ў Бранск, каго ў Боцькі, каго яшчэ куды/ без права вяртання ў родныя мясціны. Так яны і дачакалі канца вайны ў чужых хатах, у чужых людзей.

«Калі пасля вызвалення вярнуліся, на месцы Райска расла адна крапіва, - кажа Уладзімір Данілюк, - нават фундаменты з-пад хатаў былі разабраны. З мураванай царквы цэглы ўзялі на пастарунак паліцыі ў Храбалах ды на штосьці яшчэ ў Орлю. Нічога не было, адна крапіва, адно зелле...»

Сёння Райск - прыгожая вёска, з царквою, школаю, крамаю і клубам. Ад Храбалоў вядзе сюды асфальтаваная дарога. На недалёкай чыгунцы прыпынак - добры даезд у Бельск і Беласток. Вёска не выглядае на апусцелую, хаця старэйшыя і наракаюць, што моладзь паўцякала ў гарады. Хаты, хаця большасць драўляныя, але памаляваныя, як і платы перад імі. Каля хатаў ліпы і акацыі, як і раслі тут спрадвеку, здаюцца старэйшымі, чымсьці ў сапраўднасці. Бо што ж гэта за ўзрост для дрэва - нейкіх 50 гадоў?

Не так, як для чалавека - цэлае жыццё. Але чалавеку дадзена яшчэ штосьці, што ягоны кароткатрывалы век прадоўжвае. Гэта памяць. Некаторыя народы нават вераць, што чалавек жыве датуль, пакуль ёсць людзі, якія яго памятаюць. У Райску памята-

працяг на стар. 4




### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Заканчэнне**

Атрымаў я некалькі лістоў і правёў некалькі размоў, тэматычна звязаных з цыклам „Рэлігійныя дылемы". У большасці маюць яны характар адмоўных ацэнак таго, што я напісаў у гэтым цыкле. Мае апаненты найчасцей папракалі мяне, што я „спрыяю ідэі стварэння клерыкальнай Беларусі", што ўвогуле не бяру пад увагу тых антырэлігійных тэндэнцый, якія апанавалі ўсе найбагацейшыя краіны Заходняй Еўропы, што імкнуся „да іранізацыі Беларусі", што замест бальніц і школ прапагандую пабудову святыняў, што хачу „каб Беларусь, так як Польшча, пачала будаваць каля трох тысяч сакральных аб'ектаў", што „Беларусь згіне эканамічна, калі возьмецца за пабудову некалькіх тысяч цэркваў".

А быў закід зусім іншага тыпу, а іменна такі, што я як вольнадумец не павінен займацца рэлігійнымі пытаннямі і бараніць царкву. Па сутнасці на ўсе закіды я адказаў у сваёй публікацыі. Калі хто яе ўважна чытаў, дык ведае, што да ніякага фундаменталізму іранскага тыпу я не заклікаў, нідзе я не сказаў, што трэба ў Беларусі збудаваць некалькі тысяч цэркваў. Па-мойму, дзяржава павінна дапамагчы адбудаваць усе тыя святыні, якія мелі архітэктурную і гістарычную каштоўнасць, і тыя, якія па віне дзяржавы былі пераўтвораны ў клубы, склады ці дамы культуры. А ўсё тое, што будзе будавацца ад новага, няхай будуецца па волі і за грошы саміх людзей. Калі б, скажам, беларусы праявілі такую грашовую ахвярнасць, якой хапіла б на дзесяць тысяч святыняў, дык няхай іх узнікае дзесяць тысяч. Нельга штучным спосабам глуміць тое, што ўзнікае па ініцыятыве чалавечага шчырага духа. Барацьба з чалавечым духам заўсёды асуджана на смерць.

А што тычыцца закіду, а хутчэй за ўсё парады, каб я, вольнадумец, не бараніў рэлігіі, дык я адкажу так: я асабіста даю права выказвацца любому чалавеку на тэму вольнадумства. Гэта права даю і найбольш закаранелым клерыкалам. І будзе мне вельмі прыемна, калі прадстаўнікі любога веравызнання выкажуцца аб вольнадумстве ў стылі майго выказвання аб рэлігіі. Гаворачы па-другому, буду вельмі цешыцца, калі рэлігійны чалавек будзе бараніць права іншага чалавека на рэлігійнае бязвер'е. Толькі ў такой атмасферы наблізімся да таго амаль што ідэальнага грамадства, у якім ніхто не будзе прымушаны хаваць свой светапогляд. Трэба ж усведаміць сабе простую праўду, якая заключаецца ў тым, што клерыкал, які сёння атакуе атэіста, у сваёй істоце з'яўляецца бальшавіком, які атакаваў і знішчаў веруючага. Абедзве гэтыя катэгорыі людзей належаць па сутнасці да адной, як жа небяспечнай для чалавечнасці катэгорыі індывідуумаў.

І яшчэ адно. На працягу дзесяткаў гадоў на Беларусі беспардонна знішчаліся дзве праявы духоўнасці — рэлігійная свядомасць і нацыянальная свядомасць. Абедзве гэтыя каштоўнасці былі бязлітасна знішчаны і выгнаны з душы беларуса. Калі гэтыя дзве сферы духоўнасці разам згінулі, дык няхай яны разам адраджаюцца. А беларуская дзяржава няхай дбае пра поўную духоўную свабоду сваіх грамадзян. А гэта поўная свабода запануе толькі тады, калі веруючы не будзе прымушаны прыкідвацца атэістам, як гэта было ў мінулым, або атэіст не будзе прымушаны прыкідвацца веруючым, як гэта нярэдка выступае ў сучаснасці.

Яшчэ раз паўтару, калі пастулюю адраджэнне рэлігій у Беларусі, дык раблю гэта з надзеяй, што ўсе яны будуць карыстацца беларускай мовай (па-за нацыянальнымі меншасцямі) і адыграюць канструктыўную ролю ў працэсе нараджэння беларускага нацыянальнага гонару.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

P.S. У адным з адрэзкаў „Рэлігійных дылем" выступіў сказ, у якім гаварылася аб тым, што тысячу гадоў таму назад унія ўводзілася крыжам і мячом. Сказ гэты недарэчлівы. Унія ўзнікла ў XVI ст. Змест сказа павінен адносіцца да хрысціянства, а не да уніі.

А.Б.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КАЎКАЗЕЦ - СЯБАР НАМ, АЛЕ ЗЛАЧЫНЕЦ

Аказваецца, што найбольш нахабна парушаюць законы суверэннай Беларусі злачынныя групы з каўказскіх рэспублік. Таму на адным з бліжэйшых пасяджэнняў Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі будуць разгледжаны пастановы аб увядзенні ў Беларусі візавага рэжыму для грамадзян усіх замежных дзяржаў, акрамя тых, з якімі будуць заключаны спецыяльныя пагадненні, аб узмацненні на граніцах рэспублікі мытнага і міліцэйскага кантролю, стварэнні па важнейшых транспартных магістралях спецыяльных аддзелаў міліцыі і скарачэнні колькасці авіяцыйных рэйсаў на некаторых паўднёвых напрамках, дзе, дарэчы, пасажырамі на 90 працэнтаў з'яўляюцца не грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Па сцвярджэнню прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, гэта ні ў якім разе не палітычная кампанія, якая б была накіравана на разрыў міждзяржаўных і міжэканамічных сувязей з краінамі каўказскага рэгіёна.

### МЫ АД ВАС ДАЛЁКА

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь В. Кучынскі, які днямі ў Нахічэванскай аўтаномнай рэспубліцы назіраў за ходам прэзідэнцкіх выбараў, паведаміў, што на тэрыторыі Азербайджана ранейшаму нясуць службу нашы земляки. Генерал-маёр Слабашэвіч і разам з ім яшчэ 36 афіцэраў пагранвойскаў звярнуліся ў БВА з просьбай вярнуць іх на радзіму. Пытанне пакуль не вырашана.

### СНД РЫХТУЕЦЦА ДА НАВАСЕЛЛЯ

Чуткі аб хуткім распадзе Садружнасці Незалежных Дзяржаў аказаліся перабольшанымі. СНД жыве і, відаць, збіраецца жыць доўга. Аб гэтым сведчыць хаця б тое, што кіраўнікі дзяржаў Садружнасці збіраюцца абмеркаваць ідэю ўзвядзення ў Менску новага будынка штаб-кватэры СНД. Нагадаем, што зараз апарат СНД размяшчаецца ў апартаментах былога Менскага абкама камуністычнай партыі Беларусі.

### ХТО ТЫ ЕСТЭСЬ?

Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч абверг версію газеты «Rzeczpospolita», якая ў адным з нумароў паведаміла аб тым, што лідэр беларускага парламента па нацыянальнасці паляк.

Спадар Шушкевіч заўважыў, аднак, што вельмі паважае Польшчу і польскую культуру, вернікаў-каталікоў. Дарэчы, у бытнасць прафесарам Белдзяржуніверсітэта С. Шушкевіч чытаў лекцыі па-польску студэнтам Ягелонскага універсітэта.

### З КІМ ПАЗНАЕШСЯ, ТАКІМ СТАНЕШСЯ

Не паспелі яшчэ нават зарэгістравацца на біржы 10 тысяч працаўнікоў абароннай прамысловасці Беларусі, як з Масквы прыйшла радасная вестка. Расея ўзялася фінансаваць шэраг беларускіх прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу. Больш таго, расейскае кіраўніцтва мае намер аднавіць некаторыя ваенныя заказы былога СССР.

Такім чынам, мы фактычна зноў становімся ваенным сатэлітам Расеі, што не вельмі стасуецца з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі, якая абвясціла Беларусь нейтральнай краінай.

### ВЯРТАННЕ БЛУДНЫХ СЫНОЎ

У бліжэйшы час Расея збіраецца выслаць 5000 зняволеных, якія адбывалі тэрмін на сібірскіх лесапавалах, але былі асуджаны на Беларусі. Улічыўшы, што ў апошнія гады колькасць жыхароў турмаў і калоніяў узрасла да 18 тысяч, ды яшчэ жаданне Украіны і Казахстана пазбавіцца ад небяспечных элементаў беларускага паходжання, зусім магчыма, што турма, калонія ці следчы ізалятар стануць абавязковым атрыбутам кожнага больш-менш буйнага горада Беларусі.

### З ПІКЕТАМІ ДА ДЫПЛАМАТАЎ

З патрабаваннем да кіраўніцтва рэспублікі не далучацца да санкцыі ААН супраць Сербіі і Чарнагорыі, а таксама вырашыць пытанне аб прызнанні Беларуссю Прыднястроўскай Рэспублікі выступілі ўдзельнікі пікетавання пад эгідай «Славянскага Сабора», «Белай Русі», «ІХДС» і рэгіянальнай арганізацыі ЛДП Савецкага Саюза. Паколькі акцыя не была санкцыяніравана ўладамі, пікетаванне ля будынка рэспубліканскага МЗС працягвалася ўсяго некалькі хвілін.

### ГРОШ ЦАНА

Сумы ўзнагарод для чэмпіёнаў, сярэбраных і бронзавых прызёраў вызначаны беларускім урадам напярэдадні чарговай Алімпіяды. У беларускіх спартсменаў з'явілася нарэшце магчымасць вярнуцца з Барселоны са 100 тысячамі рублёў /1000 долараў/, 70 тысячамі /700 долараў/, альбо з 60 тысячамі рублёў /600 долараў/ адпаведна.

Вызначаны і грашовыя ўзнагароды за перамогу ў чэмпіянатах свету і Еўропы. Вышэйшая ступенька сусветнага п'едэсталу прынясе нашаму спартсмену 70 тысячаў рублёў, а еўрапейскага ўсяго толькі 50 тысяч.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

У Грыгішках пад Вільняй праходзіла **II Канферэнцыя палякаў Еўропы**, у якой прымалі ўдзел прадстаўнікі польскіх асяроддзяў са Швецыі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Чэха-Славакіі, Венгрыі і некалькіх рэспублік былога СССР - з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расеі, Беларусі, Азербайджана. Мэтай сустрэчы, якую арганізавалі Таварыства Wspólnota Polska і Саюз палякаў у Літве, было правядзенне агляду міжнародных дакументаў у справе нацыянальных меншасцяў і аналіз іх ажыццяўлення ў паасобных краінах Еўропы.

**Ад 6 да 19 ліпеня ў Рыбаках** над Нарвай Фонд «Музыка крэсаў» арганізуе міжнародны сімпозіум «Народная музыка Сярэдняй і Усходняй Еўропы». У ходзе сімпозіума адбудуцца многія канцэрты, інструментальныя і вакальныя заняткі, этнамузыкалагічная сесія, прысвечаная музыцы архаічных абрадаў. Адрас арганізатараў: 20-093 Люблін, вул. Любартоўская 38/15, тэл. 555092.

**Цэнтральная лабараторыя радыялагічнай аховы** ў далейшым наглядае павышаны - у адносінах да стану з 1985г. - узровень радыеактыўнага цэзію ў малацэ і мясе, што з'яўляецца вынікам катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у 1986 г. Датычыць гэта тэрыторыі на ўсход ад Віслы і абшараў на пагранічны Апольскага, Вроцлаўскага і Чанстахоўскага ваяводстваў. Выяўленыя забруджанні не пагражаюць здароўю.

**Варшаўскі «Аграбанк»** адкрыў сваю філію ў Беластоку, а яе дырэктарам з'яўляецца **Таццяна Мішчук**. Выбар Беластока быў выкліканы перакананнем, што наш горад стане ў будучыні цэнтрам міжнароднага гандлю і супрацоўніцтва Захаду з Усходам.

**Тры аўтамашыны з польскімі** рэгістрацыйнымі нумарамі затрымалі таможнікі ў Кузніцы. Аказалася, што самаходы былі ўкрадзены ў Варшаве і

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „НІВЕ"

* Аб візіце Станіслава Шушкевіча ў Польшчу.
* Польскія бізнесмены цікавяцца Беларуссю.
* Беларускія музычныя часопісы.
* У Мілейчыцкай гміне.
* Карэспандэнцкі юбілей Андрэя Гаўрылюка.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 390

### НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ

* * *

чорныя ніткі
белыя-белыя ніткі
белы ўзор
непаўторны

неба і неба як памяць
свет і свет
адна зямля

у чыстым прасторы
дотык васільковы

тонкая рука нада мной
над маім домам

сон Першы сон

жыву

* * *

у Бельску старая музыка
лагодны час - лета
забытая царква

дайсці да Першага слова малітвы



*Надзея Артымовіч.*

### ЯН ЧЫКВІН

Рыжы, пахучы мёдам гародчык,
Геаметрычны спакой, летні одум.
Пыл смутку - трывожна пякучы,
Як і зялёны вянок прахалоды.

Наша хата з дажджу пакрыёму стаіць.
А ты свеціш, як сонца - і мне хочацца піць...



### МІРА ЛУКША МЕСТА

У вечным месце вечна вее вецер.
У вечным месце ёсць пустыя пляцы,
Дзе тоны бетону прыдушваюць цэрквы, касцёлы.
У вечным месце госцю паказваюць тое, чаго няма
Людзі, якіх месца не зойме ніхто і ніколі.

*Віцебск, 28.05.1992 г.*



### ДЗЯРЖАУНАСЦЬ МОВЫ

Цябе аплявалі, табой пагарджалі,
І звалі хамскаю, звалі сялянскаю.
Цябе пакідалі, хоць часта і з жалем,
Мовы шукалі прыгожае, панскае.

І паплыла ў беларускія хаты
І агрэсіўная, і беспардонная,
І рускага брата, і польскага брата
Быццам паводка стыхія моўная.

Можа надыйдзе гэткае свята,
Што роднае слова да нас зноў
прытуліцца?
Нат загавораць на ёй бюракраты,
Якія выгналі мову і з вуліцы,

Ды пасадзілі яе за краты,
З перакананнем, што стуль
і не вернецца,
І будзе мова старэйшага брата
Царстваваць вечна
ў найменшай аселіцы.

Усмерціць мову аднак не ўдалося,
Рухнулі планы іх беспадстаўныя.
Моўны палетак зноў спеліць калоссе,
Мова становіцца зноўку дзяржаўнаю.

Дзесяцігоддзі канулі застою,
Зноў роднай мове дзверы адчынены.
Спаўняецца наша адвечная мроя -
Родная мова стаецца айчыннаю.

Наша ўваскрэсшае роднае слова
Зноў паплыве над палямі, дубровамі.
І беларуская зойме зноў мова
Пачэсны пасад разам з іншымі мовамі.

**ВІКТАР ШВЕД**

* * *

промністай прабоінай у небасклоне
сонца
зьвякнула
аб
шыбіны
вокан
зварухнуліся вусны дрэў
у пацалунку першай цеплыні

у позірку вачэй яе
дзень
зацьвіў
крыштальнымі пузыркамі мрояў
што
выпырснулі ў прастору неба
каб
растрэскаўшыся
аб
яго
купал
арасіць
зямлю
сьвятымі
іскрамі
дзявочай чысьціні

нараджаўся першы дзень вясны
я міг гэты
прагна
піў
з вуснаў што побач

**ВІКТАР СТАХВЮК**

## САСНОВЫ ХМЫЗ

Раніцай малы хлапчук прыгнаў карову з пашы, бо ўжо вельмі змучыўся будучы галодным, а й ведаў, што мама мусіць выдаіць карову, каб дзеці мелі малако на снеданне. Так было кожнага года і кожнага дня: цёмна - выганяў жывёліну на так званы поранак, а калі ўжо сонейка падымалася ўверх так, што хлопцаў цень скарачаўся да пяцішасці крокаў - прыганяў дадому. Пасля снедання, якое толькі з назвы так гучна брынчэла, бо сапраўды ніколі не наядаўся, як людзі, зноў выганяў і тоўкся аж да захаду. Раней ніколі не прыганяў, бо баяўся.

Ён кожнага дня баяўся вяртацца дадому таму, што «мама» заўсёды знайшла прычыну на тое, каб «баструка» адлупцаваць. Сёння толькі ўвайшоў на панадворак, як мачаха выскачыла з хаты, ды давай яго абкідаць агіднымі словамі за тое, што сырыя, альховыя дровы не хочуць гарэць у пячы, а толькі сычаць і дымяць.

- Коб тэбэ спрутыло, - крычала. - Людэ ўжэ давно в поле пушлі, а я нэ могу сныданя наварыты!

Малы злякаўся, што зноў за штосьці налупяць і шмыгануў пад пуню. «Мама» крычала да яго з-пад хлявоў:

- Як ты, баструку, нэ прынэсэш з лесу сухіх дроў, нэ прыходь додому, бо я тобе покажу, на чуом свіня хвост носыт, коб ты буў у п... зогныў!

Хлопчык ужо ведаў, што можа быць і, нягледзячы на змучанасць, голад і боль ног у ранах, пайшоў у лес па сухія дровы, плачучы з гора.

Знаў Быгунку*, як свой садок. Зайшоў ад Грыцюшчыны і назбіраў ношу сухога сасновага галля, ды нясе дадому, каб зарабіць на бульбу. Невядома адкуль, апынуўся перад ім гаёвы. Дзіцё ходу з хворастам, а гаёвы за ім. Бягучы, стукнуў хлопчыка ботам у зад і той пакаціўся. Гаёвы ўзяў ад яго хмыз, кінуў на куст ядлоўца, а сам ботам наступіў на нагу малыша і пытае:

- Po co sku... synu kradniesz drzewo z lasu?

Хлопчык ляжаў і маўчаў, бо не ведаў, як лепш гаварыць. Гаёвы, доўга не чакаючы, зняў з нагі бот і давай ім выбіваць малому з галавы ахвоту заходзіць ў лес па сухое галлё.

Малы вярнуўся дадому без дроў. Хаця й быў заплаканы, ніхто яму не паверыў, што быў у лесе. «Мама» яшчэ далажыла да таго, што атрымаў ад гаёвага, і выперла як сабаку гнаць на пашу скаціну. А бацька ўсё гэта бачыў і маўчаў.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

* Быгунка - так называюць мясцовыя людзі частку лесу паміж грабавецкімі і чахаўскімі палямі.




Прашу змясціць у „Ніве” пару гэтых слоў у адказ Сакрату Яновічу таму, што ягоную публікацыю „Камбінацыі прафесара з Кляшчэляў” лічу абразлівай для мяне.

Сакрат Яновіч піша, што я перадаў яго тэкст „па-камбінатарску... выхопліваючы кавалачкі фразаў... па-спекулянцку абдурваю... перайначваючы факты”. На жаль, не прыводзіць ён ніводнага факту, ні адной маёй думкі, якія б пацвярджалі ягоныя закіды. Я ж не рабіў яму агульных закідаў, а толькі палемізаваў з канкрэтнымі выказваннямі. Калі закідаюць камусьці камбінацыі і перайначванне фактаў, то трэба гэта даказаць, а калі няма доказаў, то абразлівыя словы не памогуць.

У палеміцы перадаў я асноўную думку аўтара, з якою я не зусім згодзен, бо ўважаю, што мова і культура важнейшыя для фармавання нацыянальнага пачуцця людзей, чым гістарычны лёс тэрыторыі, на якой яны жывуць, і паказаў некаторыя памылковыя, на мой погляд, суджэнні аўтара. І за гэта Сакрат Яновіч абкідвае мяне балотам, называе антыбеларускім дэмагогам, амаральным нецывілізаваным халопам, агрэсіўным нацыяналістам. Затое велічае мяне прафесарам, добра ведаючы, што я толькі доктар, мабыць, каб паказаць, з кім ён распраўляецца. Шкада, што ў такога вопытнага чалавека розум уступіў месца эмоцыям.

Пане Яновіч, цяпер я вас пытаю: а на якога чытача вы разлічваеце? Штосьці я не чуў, каб інтэлектуалы захапляліся публічнай лаянкай. Значыць, мая крытыка — амаральная, а вашы беспадстаўныя абвінавачванні лічыце маральнымі? У гэтым я вам фактычна не раўня і не хачу знізіцца да такога ўзроўню палемікі.

А ўсё ж такі шкада, што вы адмаўляецеся ад дыялогу з намі. Хто верыць у сілу і праўду сваіх аргументаў, той дыялогу не баіцца, грубыя ж словы тут бяссільныя.

**МЫКОЛА РОЩЕНКО**

### У СПРАВЕ ЭКСПАНАТАЎ

У „Ніве” ад 21 чэрвеня г.г. быў апублікаваны ліст дырэктара Сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы Казімежа Ушынскага, у якім ён інфармуе, што маіх экспанатаў у ягоным музеі няма. І сапраўды так яно і ёсць. Хачу выясніць, што падчас размовы з журналістам „Gazety Olsztyńskiej” Станіславам Ермаковічам гутарка вялася і пра экспанаты з музея ў Белавежы, якія пазней трапілі ў Цехановец, і пра мой нядаўні этнаграфічны дар Беларускаму музею ў Гайнаўцы. Відаць, журналіст пераблытаў музеі і мясцовасці, бо з тэксту вынікае, быццам мае экспанаты былі ахвяраваны музею ў Цеханоўцы, а не ў Гайнаўцы. За гэтае непаразуменне шчыра перапрашаю дырэктара К. Ушынскага і чытачоў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# РАНАЎ НЕ ГОІЦЬ І ЧАС

*працяг са стар. 1*

юць сваіх памардаваных сямейнікаў, суседзяў, аднавяскоўцаў.

Дзень 16 чэрвеня з'яўляецца такім вузлом памяці, які паўтараецца штогод. Пасля святой літургіі ў мясцовай царкве ідзе хрэсны ход на супольную магілу расстраляных. Служыцца паніхіда, пяецца «Вечная памяць» і на скрываўленую зямлю падаюць жамчужынкі слёз, не толькі з вачэй тых, хто помніць, хто ўцалеў. Вобраз трагедыі, кашмар перадаецца з пакалення ў пакаленне, не аднымі расказамі. Мне здаецца, што смерць вёскі жыве ў генах яе сённяшніх жыхароў, з'яўляецца арганічнай часткай іхняй існасці.

Так мне здаецца 16 чэрвеня гэтага года, роўна праз 50 гадоў пасля гэтых трагічных падзей, калі стаю ў натоўпе раян ля магілы іхніх блізкіх. Здаецца мне таксама, што разумею таго немца, які пасля пацыфікацыі вёскі, пасля расстрэлу жыхароў, звар'яцеў недзе ў Бельску /пра яго ў Райску таксама жыве памяць/. Паніхіду служыць айцец дэкан Юры Такарэўскі з Бельска. «Помяни Господи усопших раб Твоих».

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Фота Марка Цішука**



*Пасля святой літургіі ў мясцовай царкве ідзе хрэсны ход на супольную магілу расстраляных.*

### ТАВАРЫСТВА ПОЛЬШЧА — БЕЛАРУСЬ

Заснавальніцкі кангрэс Таварыства Польшча-Беларусь адбыўся ў нядзелю (21 чэрвеня г.г. — рэд.), у Варшаве. Намерваецца яно, разам з Таварыствам дружбы Беларусь-Польшча, весці супрацоўніцтва з палякамі на Беларусі і з беларусамі, якія пражываюць у Польшчы.

Нававыбраны старшыня Збігнеў Анташэўскі заявіў, што важнай задачай будзе папулярызацыя гісторыі і культуры Беларусі, якая з'яўляецца „зусім невядомай”.

Сярод статутных мэтаў арганізацыі ставяцца намаганні наконт будавання добрасуседскіх адносін, а таксама спрыянне развіццю гаспадарчага і гандлёвага абмену.

Згодна прынятай пастанове ўлады Таварыства будуць садзейнічаць выданню першага ў гісторыі беларускапольскага і падрыхтоўцы пашыранага выдання польска-беларускага слоўніка. У гэтым жа дакуменце кангрэс звяртаецца да ўладаў Рэчыпаспалітай Польскай пачаць дзейнічаць наконт паправы сітуацыі на грнічных кантрольна-прапускных пунктах. Пастанова змяшчае таксама дэкларацыю аб супрацоўніцтве з таварыствам Польшча-Украіна, Польшча-Латвія і Польшча-Расія, а таксама з іншымі, якія яшчэ створацца.

**(„Rzeczpospolita” z 23 czerwca 1992 r.)**

# ЦАРКВА І НАРОД

Найчасцей, калі хтось з польскіх гісторыкаў або публіцыстаў пісаў пра Праваслаўную царкву ў II Рэчыпаспалітай, дык перад усім звяртаў увагу на праблемы аўтакефальнасці, змаганне за святыні, зямлю і маёмасць, на юрыдычныя абмежаванні свабоды рэлігійнага жыцця праваслаўных1/. Калі аўтар кранаў нацыянальныя праблемы Царквы, дык найчасцей пісаў пра расейскіх іерархаў, русіфікаваных святароў і шматнацыянальную масу вернікаў. Узнікла багатая літаратура пра намаганне ўкраінцаў у напрамку ўзмацнення нацыянальнага характару рэлігійнага жыцця. Засталося багата літаратуры і дакументаў, дзе адлюстравана дзяржаўная палітыка ў напрамку стварэння сацыялагічна-палітычнай катэгорыі — „праваслаўных палякаў”. (Тое, што калісь было прыдумана эндэцкімі і санацыйнымі палітыкамі, сёння здзяйсняецца поўным махам). Пра праваслаўных беларусаў, калі яны згадваліся, пісалася наогул, што, маўляў, такія былі, але на самай справе невядома чаго яны хацелі, ды ці ўвогуле чагосьці хацелі. Некаторыя аўтары сцвярджалі, што беларусы ў большасці былі задаволеныя расейскім характарам свае царквы, а былі б, пэўна, таксама задаволеныя, калі б нехта іх заахвоціў спяваць „Ойча наш” на польскай мове.

Уся гэтая літаратура не тлумачыць аніякім чынам, напрыклад, таго, чаму ў час II Сусветнай вайны нарадзілася Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква і адкуль узяліся яе іерархі і духоўнікі. Некаторыя савецкія і польскія гісторыкі без хістанняў сцвярджаюць — стварылі яе немцы. Але ж немцы, як вядома, рэлігійнымі справамі цікавіліся найчасцей тады, калі святары такога ці іншага веравызнання займаліся палітыкай. З усіх чужых сістэмаў, што „накрывалі” беларускую зямлю ў XX стагоддзі, у адносінах да рэлігійных спраў нямецкая акупацыя была самай нейтральнай. БАПЦ узнікла як вынік унутрана-беларускіх працэсаў, нягледзячы на — як піша І. Касяк2/. — *супрацьдзеянне ўсякіх небеларускіх палітычных узброеных бандаў.*

У трыццатыя гады на тэрыторы БССР прадаўжаўся працэс разбурэння цэркваў, амаль дашчэнту знішчаліся святары, трываў генацыд беларускай інтэлігенцыі і сялянства. У Польшчы тэрарызаваныя расейскія іерархі стараліся абараніць хаця б толькі юрыдычнае існаванне праваслаўя. Царква траціла сотні святыняў, якія найчасцей пераходзілі ў карыстанне пануючага веравызнання. Паліцыя і ўраднікі стваралі новы субэтнас — „праваслаўных палякаў”. Ліквідаваны былі, адна за адной, беларускія палітычныя, грамадскія, асветныя і культурныя арганізацыі.

У той кашмарны час, нягледзячы на супрацьдзеянне з боку дзяржаўнага апарату і непрыхільнасць царкоўных іерархаў, група праваслаўных святароў і інтэлігенцыі вяла зацятае змаганне за беларусізацыю царкоўнага жыцця ў Заходняй Беларусі. З іхняга пункту гледжання — лёс Царквы на Беларусі і лёс беларускага народу былі аднолькавымі. У час, калі каталіцкі касцёл праводзіў так званую рэвіндыкацыю святыняў і маёмасці, якая заставалася ва ўладанні Царквы, а з другога боку дзяржаўны апарат намагаўся перапатварыць царкоўныя структуры ў інструмент сваёй усходняй палітыкі, толькі поўнае разуменне супольнасці лёсаў Праслаўнай царквы і беларускага народу магло прынесці выратаванне. Тыя святары і свецкія дзеячы, якія выступалі за нацыянальны характар царкоўнага жыцця (у вонкавых яго праявах), ведалі, што незалежнасць і сапраўды хрысціянскі характар можа прыдаць Царкве толькі шырокая і моцная падтрымка вернікаў. А найчасцей здаралася так, што калі святар пачынаў спяваць адміністрацыяй уведзены гімн „Божэ, цось Польскэ”, тыя вернікі выходзілі са святыні.

Цяпер, калі няма ніводнай праваслаўнай беларускай газеты ці часопіса, варта звярнуць увагу на аргументы тых беларускіх патрыётаў, якія абаранялі свой народ і яго веру. Здаецца мне, што шмат што з таго мінулага часу застаецца актуальным і па сёння.

У віленскім часопісе „Царква і народ” (студзень 1933 г.) адзін з аўтараў, схаваны за ініцыяламі СС, пісаў: *Перад усім трэба раз назаўсёды зразумець тое, што беларусы гэта*

 

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**24-08-1988 г.**

Лёнік вярнуўся з Сэула /Карэя/. Удзельнічаў у мастацкай выстаўцы з нагоды сусветнай алімпіяды. Асаблівасці ўсходняга свету; нешта з казарменнасці; багацце дзяржавы і матэрыяльная скромнасць грамадства; самадысцыпліна. /.../

**26-08-1988 г.**

/.../ Учора ў Крынках давялося прагаварыць вечар з трыма трампамі-навукоўцамі з універсітэта ў Познані. Зноў жа вакол «Białorusi, Białorusi». І не столькі размова гэта была, колькі звычайная, банальная, інфармацыйная гутарка-маналог /мой/ пра беларусаў /толькі адзін з іх сяк-так пачытаў маю кніжку?/.

Пра сапраўды літаратурныя мае кніжкі ўсё меней і меней гаворкі. Заглушыла іх - гэтая!

**16-10-1988 г.**

Ад 29 жніўня да 10 кастрычніка - у ЗША і ў Канадзе /з Таняю/. Сорак тры дні. Там настолькі іншы свет, што ўсё яшчэ не магу цалкам пазбыцца ашаломленасці. Перш за ўсё тэхнічнай цывілізацыяй. /.../ Буду пісаць рэпартажы ў «Ніву» /вёў дзённік/.

Выезды ў Англію так не змянілі мяне, як амерыканская вандроўка!

/.../ Рады я, што - нарэшце! - пабывалі ў Скарынінцы Мікола Давідзюк і Антось Мірановіч, прыняўшы ўдзел у канферэнцыі, прысвечанай тысячагоддзю хрысціянства ў Беларусі. А Валік Сельвясюк ужо ў Нью-Йорку, на беларускай стыпендыі /хутка выедзе туды і Алег Латышонак/. Юрка Ляшчынскі, чую, у Італіі... /.../. Зламаны манаполь Алеся Барскага, які, маючы талент выклікаць добрае ўражанне, па-эгаістычнаму блакаваў схільнасці ў эміграцыі аказваць нам тут істотную помач.

/.../ Раз'езды беларусаў да беларусаў ва ўсім агромністым свеце моцна будуюць наша тут нацыянальнае пачуццё. Ёсць тая небяспека, аднак, што павыязджае ад нас таленавітая моладзь і мы застанемся з аднымі дуралобамі...

Якія весці для мяне ў Беластоку? «Gazeta W.» ад 13-га піша, што я нібы атрымаў 12-га Сярэбраны крыж заслугі... Так вось польская ўлада «ушанавала» трыццаць два гады маёй беларускай дзейнасці, узнагародзіўшы на ўзроўні шматгадовага... начнога стоража, якога пасылаюць на пенсію. /.../

«Więź» No 7-8: Варашыльскі рэплікуе Скарадзінскаму і Карпу, якія ў першым нумары сёлетняй «Więzi» прычапіліся да мяне. Уторыць яму, вельмі экзальтаваным пісьмом, Краснадэмбскі з Уроцлава /стар. 313-317/. Добры працяг зацікаўлення кніжкаю.

Новае выданне даведніка «Pisarze województwa białostockiego». Дзевяць беларускіх - з сарака чатырох усіх разам.

Ваяводскі дом культуры выдаў другі ў г.г. нумар бюлетэня «Dyskusja»; амаль у цэласці прысвечаны ён беларускай праблематыцы /у сувязі з гадавінай «Белавежы»/. Аўтарскі ліст як дадатак да бюлетэня падрыхтаваў Ясь Леанчук. Чамусьці не хочацца хаця б пагартаць усё гэта... Божа мой, думаю, калісьці ад такое нагоды было б радасці тае аж пад неба!

І яшчэ адзін часопіс, «Podlasie»; краязнаўчы. Пра беларускае ані гу-гу ў ім.

«Studia polsko-litewsko-białoruskie», кніга на каля чатырыста старонак. Такі фінал намаганняў утрымаць канферэнцыі «Мост праз стагоддзі - Most przez wieki». У гэтай шалёнай дзяржаве амаль немагчыма нешта рэгулярна арганізоўваць. Што ж, дзякуй і за тое, што ўдалося.

*/Працяг будзе/*

*Тлумачэнні:*

*- «Мост праз стагоддзі» - назва польска-беларускіх навукова-літаратурных канферэнцыяў, арганізаваных у гадах 1977 і 1980 па ініцыятыве Клуба Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку, вынікі якіх апублікаваны асобным томам у 1982 годзе пад рэдакцыяй Міхася Шаховіча. Трэцюю па чарзе канферэнцыю - тарпедавалі польскія нацыяналісты, размыўшы яе канцэпцыю ў шырока інтэрпрэтаваны «усход ад мора да мора», або «крэсы». На правядзенне наступных жа раптам не хапіла грошай.*

## БЕЛАРУС З ПОЛЧЫНА

У выніку пасляваеннай рэпатрыяцыі многія жыхары Савецкага Саюза пераехалі ў Польшчу і пасяліліся на заходніх землях. Апрача палякаў ехалі і беларусы. Вось адзін з іх - Міхась Саўчук, які цяпер жыве ў гарадку Полчын-Здруй, што ў Кашалінскім ваяводстве.

Нарадзіўся Міхась Саўчук у 1887 годзе ў вёсцы Падбалоцце каля Ваўкавыска. Чатыры гады служыў ён у царскім войску і давялося яму змагацца з падраздзяленнямі Чырвонай Арміі. За гэта мусіў адпакутаваць.

Мірнае жыццё пачаў мой размоўца ў вёсцы Малінаўка ў Краснаярскім краі. У 1940 годзе быў ён з сям'ёй сасланы ў горад Карабаш у Чэлябінскай вобласці, дзе працаваў у жалезных рудніках. Там апынулася таксама Станіслава Банах з-пад Зэльвы, пазнейшая жонка сына, якая працавала пры дабычы торфу. У 1942 - 1944 гадах былі яны перавезены ў Казахстан да працы ў калгасе Тасарк, а пасля ў Чыту, дзе працавалі ў свінцова-цынкавых рудніках. Знаходзіліся яны там да восьмага красавіка 1946 года.

Сям'я Саўчукоў скарыстала з магчымасці рэпатрыяцыі ў Польшчу. Спыніліся яны ў гарадку Полчын. Пасля высялення немцаў і ў выніку дзейнасці навакольных мяшочнікаў у гарадку асталіся толькі пустыя дамы, без вокнаў і дзвярэй. Давялося ўжо каторы раз амаль ад пачатку арганізаваць чарговае прыстанішча. На гэты раз - апошняе.

Цяпер Міхась Саўчук, якому ўжо 105 гадоў, жыве разам з нявесткай Станіславай /абое на здымку побач/ у асабняку на вуліцы Гранічнай 8.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**



*ані неразлучная часціна расейскага народу, ані польскага. (...) гэта самабытная этнічная адзінка, акрэсленага собскага характару, індывідуум маючае гэнаму характару адпаведна ўласцівую культуру, духовую і матэрыяльную, мову і структуру псіхікі (...). За тым трэба зразумець тое, што паняволенне народу і стрымоўванне яго эвалюцыйных праяваў разрастаючагася духоўнага жыцця з'яўляецца ганьбаю не для народу паняволенага, а для паняволюючага. Хрыстос паняволенне, уціск і крыўды слабейшага знёс. Палітыка і інстынкт людаедства гэтага можа не прызнаваць. Хрысціянства гэтае мусіць прызнаць, бо гэта яго падстава жыцця, бо без прызнання ўсіх людзей за роўных духоўнікі будуць маральнымі банкрутамі, калі не другімі Пілатамі. Таму, калі палітыкі не прызнаюць беларусаў за людзей, Царква тым больш шчыра павінна нас прыгарнуць да сябе, як пакрыўджаных, для якіх перад усім Хрыстос і зышоў на зямлю.* І далей: *Усходняя Беларусь задаптаная ботам чырвонага атэізму. (...) Праваслаўная Заходняя Беларусь цэрквы свае яшчэ мае, але верныя ёе з кожным днём таюць як снег на вясну. Нашая вёска вітае сёння ўсялякі камунізм, нігілізм, атэізм, таўпой ідзе да іншых веравызнанняў...* Ці ж гэтае і сёння не ёсць актуальнае?

Увазе чытачоў прапаную таксама іншы часопіс — „Голас Праваслаўнага Беларуса" (снежань 1931 г.), — а ў ім рэдакцыйны артыкул „Без Народу — без Хрыста". „Голас" выдаваўся ў Вільні грамадскімі намаганнямі жменькі святароў-беларусаў і віленскай інтэлігенцыі. Прыгадваючы словы з Евангелля ад Лукі, рэдактары „Голасу" пісалі: *Царква ёсць Народ, аб'яднаны з сваім Епіскапам (...). І так, як было тады ў Юдэі, бывае заусёды там, дзе Іерархія адрываецца ад Народу, і тады, калі вязі еднаючыя Народ з яго Епіскапам, які ёсць сутнасцю Царквы, рвуцца... тады зараз жа няхуўхальна прыходзіць да „архірэяў і ваяводаў" той ці іншы Іуда, каб прадаць Хрыста — жывы творчы дух Царквы. Таму няма для ўсялякай улады, а асабліва для іерархіі Царкоўнай, горшай, страшнейшай небяспекі, як пераўтварыцца ў самамэту, паставіўшы сабе задачу сабеслужэння, разглядаючы народ як належнае дзеля гэтага следствапрыладу...*
*Беларускі народ,* — пішуць далей рэдактары „Голасу", — *бараніў свае веры, не ашчаджаючы маёмасці, здароўя, а калі трэба — жыцця, і нават калі ў архірэяў увайшоў Іуда вуніяцкай спакусы, Народ абараніў найдаражэйшы скарб свае духоўнай самабытнасці — старадаўнюю веру. Іерархі і святары бяз народу гэта не Царква, гэта супярэчнасць Царквы. Логіка чалавечых разважанняў і высновы, якія выплываюць з Евангелля, вымушае гістарычна абавязак перад епіскапамі, духоўнікамі і Беларускім Народам — аб'яднацца.*

Іншы праваслаўны часопіс, які выдаваўся ў Вільні, — „Светач Беларусі" (кастрычнік 1931 г.) — змясціў артыкул пад загалоўкам „З кім змагацца?", дзе аўтар пісаў: *Нейкі шалёны лёс праследуе Беларускі Народ з дапамятных часоў. Ён і яго землі заўсёды былі цэнтрам і аб'ектам барацьбы і сварак, якія не раз крывавымі разорамі значылі свае каляіны. Хто не таптаў беларускае душы, хто не паліў нашых вёсак, гарадоў і не здзекаваўся над Нашым Народам! За сваю мазолістую працу, за прывязанасць да сваіх палеткаў, імён і веры чужамоўныя арды няволілі нашу зямлю, а чужыя слугі адбіралі нам душу. І ізноў пачынаюць барацьбу за Душу Нашага Беларускага Народу. І ізноў мы стаемся аб'ектам барацьбы. І зноў дзеля чужых палітычных інтарэсаў паліюцца беларускія слёзы.*

Шмат што напісана 60 гадоў таму, трэба пагадзіцца, і сёння гучыць актуальна. Шмат што актуальнае яшчэ 60 гадоў таму, сёння ўжо страчана назаўсёды. Забытая мазолістая праца, няма прывязанасці да сваіх палеткаў, а і імёны вернікаў, за якіх моляцца святары, — Ядвіга, Тэрэса, Пшэмэк, Збігнеў, Губэрт, Гэрбэрт, Сэбастыян, Бартэк, Віёлета — сведчаць, як многа з таго часу страціла Праваслаўная царква і беларускі народ. І толькі як даўней чужынцы шалеюць на беларускай зямлі, разрываючы душу народа паводле сваіх імперыяльных патрэбаў.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

---

1/. Прапаную ўвазе чытачоў такіх аўтараў, як: А. Айненкель, І. Барташэвіч, М. Бароўскі, К. Хадыніцкі, А. Хайноўскі, О. Чарноўскі, Д. Дарашэнка, С. Кірыловіч, М. Косман, Т. Лангер, В. Мыслэк, М. Папежынская, В. Пятровіч, А. Світыч, І. Урбан, І. Власоўскі, Т. Вышамірскі, В. Зайкін, М. Зызкін.

2/. І.Касяк, З гісторыі Праваслаўнай Царквы Беларускага Народу, Нью-Йорк, 1956.

## ГОЖАЯ ЛЮСЯ

Люся была найпрыгажэйшая. Хлопцы з цэлай вёскі і іншых вёсак, а нават з недалёкага горада - усе заляцаліся да яе. Дзяўчына нават слухаць не хацела аб замужжы. Усе хлопцы не былі як трэба.

- То ж ёсць і добрыя хлопцы, - угаварвала маці. - Ідзі замуж, пакуль час, бо ў старых дзеўках застанешся.

- Ой! Няма чаго спяшацца!..

Усе сяброўкі выйшлі замуж. Падрасталі падлёткі. Хлопцы, якія каханіся ў Люсі, перасталі ёю цікавіцца. Пойдзе Люся на танцы і прастаіць адна. Крыўдна было дзяўчыне глядзець, як маладыя танцуюць, а яна падпірае сцяну.

Аднойчы пасля забавы прыйшла дадому і заплакала. Рашыла не ісці больш на забаву. Брат /старэйшы на пяць год/ рашыў знайсці сястры мужа. Паехаў у суседні прыход, дзе жыў яго сябар з войска - адзіны сын у бацькоў, гаспадар.

Пачуўшы ад сябра аб сватах, вельмі здзівіўся: думаў, што гэта жарты. Аднак Коля яго пераканаў.

Выхаду не было. Люся выйшла замуж.

Андрэй шанаваў жонку. Свякруха, калі загневалася на нявестку, прагаварыла: «Добрая ты, калі родны брат цябе пасватаў! Хацеў выгнаць дурня з дому. Каб ты добрая была, то цябе там узялі б, а так сюды чорт прынёс!»

**Аўрора**



 

# Сціплае свята

Пасля штогадовых аглядаў-конкурсаў «Беларуская песня», несумненна, Свята беларускай культуры з'яўляецца самым вялікім мерапрыемствам, арганізаваным Беларускім грамадска-культурным таварыствам. У адну з чэрвеньскіх нядзель у беластоцкі амфітэатр прыязджаюць найлепшыя салісты і калектывы з Беласточчыны ды госці з Беларусі. На залітых сонцам лаўках збіраецца некалькітысячная публіка. Спатыкаюцца знаёмыя, ёсць нагода пагаварыць, абмяняцца навінамі, выпіць аранжаду, а на акрасу ўсяго гэтага - паслухаць свае песні, якія кранаюць нават самыя чэрствыя душы. Адным словам, такі народны фэст.



*Калектыў з Чыжоў.*



*Вяла канферанс і спявала Валянціна Ласкевіч.*

А дакладней - згустак народных фэстаў, якіх безліч па вёсках і мястэчках Беласточчыны арганізавала калісьці БГКТ. Але ўжо некалькі апошніх гадоў адбываюцца яны толькі зрэдзьчасу. Замест такой сеткі народных гулянняў праводзіцца адно Свята беларускай культуры.




*На сцэне „Хлопцы-рыбалоўцы".*



*„Васілёчкамі" дырыжырывала Аліна Нігярэвіч.*

Сёлетняе свята праводзілася 21 чэрвеня. Для пастаянных удзельнікаў і гледачоў не магло яно не здацца больш сціплым, бяднейшым. Хаця прыняло ў ім удзел звыш 20 выканаўцаў /як салістаў, так і калектываў/, аднак шмат каго не было, хаця б спявачак з Орлі, Краснага Сяла, Арэшкава, бельскай «Маланкі» ці такіх пэрлінак кожнага канцэрта, як Аля Дубец ці Эля Сушко. Не прыехаў ніхто з Гданьска. З лаўрэатаў конкурсу дзіцячай песні была толькі - хай сабе і найлепшая - Марта Драль. Прыкрую неспадзяванку арганізатарам зрабіў калектыў з Бераставіцы, які адклікаў свой прыезд у апошні момант.

Гледачоў таксама было менш, чымсьці ў папярэдніх гадах, усяго тысяча-паўтары. У пошуках ценю, збіліся яны ў адным сектары, куды падаў скупы цень ад недалёкіх дрэў, пакідаючы большую частку лавак пустымі. Гарачыня стаяла неміласэрная. У такую пагоду спявак напэўна было нялёгка. Дык з тым большай пашанай трэба ставіцца да ўсіх выканаўцаў, якія ў гэтую нядзелю пралівалі - у прамым сэнсе - пот для беларускай справы. Крыху шкада, што арганізатары не



*Публіка збілася ў адным сектары, куды падаў скупы цень ад недалёкіх дрэў.*



*Мужчынскі актэт з Гайнаўкі.*

пастараліся раней зрабіць адбор рэпертуару. Даволі часта паўтараліся тыя самыя песні, гэта напэўна не прыдавала імпрэзе атракцыйнасці.

Нельга, аднак, абмінуць і станоўчых бакоў мерапрыемства, нават калі было страшэнна горача і крышку нуднавата. На першым месцы паставіў бы я тут вяртанне на сцэну так заслужаных для беларускай песні бельскіх «Васілёчкаў». Спяваюць цяпер яны ў абноўленым складзе, пад кіраўніцтвам Аліны Нігярэвіч. І спяваюць, трэба сказаць, ужо на прыстойным узроўні. Не падвёў і на гэты раз хор Гайнаўскага дома культуры. Публіцы /у большай частцы жаночай/ асабліва спадабаліся па-жаўнерску падцягнутыя, стройныя мужчыны, якія ў гэты дзень і спявалі на ваяцкі лад. Адзначыліся, як заўсёды, галасістыя жанчыны з Дашоў, «Хлопцы-рыбалоўцы», вясёлы калектыў з Чыжоў ды такія заслужаныя для беларускай песні артысты, як Люба





Дуэт Анна Богус і Марыя Вярбіцкая.

Жанчыны з „Васілёчкаў".



Марта Драль.

Гаўрылюк ці Юрка Налівайка. Звыш трохгадзінны канцэрт закончыў калектыў «Гарадніца» з Гародні, пад музычным кіраўніцтвам Аляксандра Лойкі. Калектыў іграў, спяваў ды яшчэ і танцаваў на сцэне, якраз так, як і трэба ў фінале - гледачы, думаю, пакідалі амфітэатр усё ж такі задаволеныя. Хто прыйшоў сюды, каб адчуць сябе ў свойскай атмасферы, атрымаў гэтую асалоду.

Напэўна расчараваліся тыя, хто чакаў нечага больш, хто хацеў пабачыць нейкія новыя элементы беларускай культуры, якія сведчылі б пра ейнае развіццё. Таму лічу, што назоў гэтай, на свой спосаб, карыснай імпрэзы - Свята беларускай культуры - з'яўляецца залішнім. Калі толькі такая ў нас культура, дык сумна робіцца на душы . Ужо лепш гучыць «Свята беларускай песні», як назваў імпрэзу Аляксандр Баршчэўскі ў сваім прывітальным слове. З зазначэннем, аднак, што свята гэтае не першай велічыні, адно рэха /слабаватае/ агляду „Беларуская песня '92".

**МІКОЛА ВАУРАНЮК**
**Фота аўтара і Сяргея Грынявіцкага**

P.S. У амфітэатры свае кніжкі падпісвалі «белавежцы»: Ян Чыквін, Віктар Швед і Янка Целушэцкі. Разбяр з Канюк Уладзімір Наўмюк прадаваў свае драўляныя скульптуры. Аднак дамінацыя песні ў гэтай імпрэзе была выразная, дзеля яе, галоўным чынам, прыйшлі сюды людзі. Таму і назоў «Свята беларускай песні» больш адэкватны таму, што пабачылі і пачулі беластачане ў нядзелю 21 чэрвеня.

# МЫ ІМКНЕМСЯ ДА ФАЛЬКЛОРУ

Выступ ансамбля „Гарадніца" з Гародні на Свяце беларускай песні прайшоў вельмі паспяхова. Разамлелая ад спёкі публіка значна пажвавела і пасля кожнай песні сыпала густымі воплескамі. Чытачам прапануем кароткую размову з мастацкім кіраўніком „Гарадніцы" Алесем **ЛОЙКАМ**.

*— Спевакі „Гарадніцы" — гэта аматары ці прафесіяналы?*

— Ёсць і аматары, і прафесіяналы. Амаль усе музыканты, якія нам падыгрывалі, маюць музычную адукацыю. Спевакі наогул — з прыроджаным талентам, без школаў. У „Гарадніцы", прыкладам, спявае сям'я Шулейкаў, для якой выконванне беларускіх песняў з'яўляецца нечым натуральным...

*— Калі Ваш ансамбль узнік?*

— У 1989 годзе. Мы шукалі сапраўдных беларускіх народных песняў па вёсках, хацелі, каб наш рэпертуар вылучаўся малавядомымі, але прыгожымі народнымі песнямі, якія бытуюць на Гарадзеншчыне...

*— Ці сапраўды можна яшчэ на вёсцы пачуць ад людзей беларускую песню?*

— Ведаеце, можна. Нам удалося запісаць некалькі песняў, якія раней не гучалі ў выкананні іншых народных ансамбляў на Беларусі.

*— Значыць, Ваш рэпертуар — гэта тое, што тут у нас называюць апрацаваным фальклорам?*

— Я б сказаў, што мы імкнемся да фальклору. Мы ўсёй душой хочам спасцігнуць сутнасць фальклору, беларускага песеннага фальклору. Калектыў яшчэ малады, і я лічу, што мы да таго фальклору прыдзем... Пакуль што я не магу сказаць на сто працэнтаў, што наш ансамбль — фальклорны. Гэта пакуль што ансамбль беларускай народнай песні.

*— Як Вам спадабалася тут на Беласточчыне?*

— Мы прыехалі сюды на тыдзень перад сваім выступам у амфітэатры ў Беластоку. Мелі канцэрты на Беласточчыне. Людзі прынялі нас надзвычай цёпла, і я вельмі крануты, што беларуская песня мае тут шмат прыхільнікаў. Сёння, пасля канцэрта ў Беластоку, мы яшчэ паедзем у Чыжы. А потым — вяртаемся ў Гародню. Сам я асабіста вельмі хвалююся, таму што мая жонка мае восъ-восъ нараджаць, і мне трэба тэрмінова туды вяртацца...

*— Значыць, жадаю поспехаў усяму Вашаму ансамблю, а Вам асабіста — прычакаць музычнага наследніка...*

— Сын у мяне ўжо ёсць. Хацелася б, каб цяпер была дачка. Каб была пара. І каб добра спявалі.

**Размову правёў Я. МАКСІМЮК**



*Выступае „Гарадніца". На гармоніку акампаніруе Алесь Лойка.*
*Фота С. Грынявіцкага*

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

«Звязда» /н-р 122/ апублікавала Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 3 чэрвеня г.г. аб назначэнні Сянько Уладзіміра Лявонавіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

*

Да 600 аўтамабіляў праходзіць зараз праз КПП «Брузгі» каля Гродна. Праезд да гэтага часу адкрыты толькі для службовых аўтамабіляў. З 1-га ліпеня тут будуць кругласутачна прапускаць і грузавыя аўтамабілі. Новы КПП у Бераставіцы пакуль гатовы толькі на 90 працэнтаў.

*

Дэлегацыя польскіх парламентарыяў наведала Ліду. Узначальваў яе старшыня камісіі сойма па сувязях з суайчыннікамі за мяжой С. Слівен. Госці сустрэліся са старшынёй выканкама гарсавета народных дэпутатаў В. Мальцам, пазнаёміліся з дзейнасцю Таварыства польскай культуры і аддзялення Саюза палякаў Беларусі на Лідчыне.

Дэлегацыя пабывала таксама ў Воранаве. Парламентарыі Польшчы размаўлялі з кіраўнікамі раёна, паслухалі паведамленне старшыні кіраўніцтва мясцовага Саюза палякаў Беларусі Г. Фамічэўскага аб справах гэтай арганізацыі. Дэпутаты сойма ўсклалі кветкі на магілы загінуўшых польскіх вайскоўцаў у вёсцы Сурконты.

*/"Звязда" ад 19 чэрвеня г.г./*

*

Цэлы клад на колах трапіў у рукі гродзенскіх таможнікаў і супрацоўнікаў УКДБ.

У службовым купэ поезда Санкт-Пецярбург - Варшава - Берлін імі былі выяўлены схаваныя ў тайнікі каштоўнасці: залатыя партсігар і гадзіннікі з брыльянтамі, сярэбраныя скульптуры, цукарніца, табакерка і іншыя сувеніры, па-мастацку зробленыя крыштальныя вырабы, пазалочаныя ікона і збаны, рэдкай прыгажосці фарфоравае і металічнае блюды дарэвалюцыйнай вытворчасці. Канфіскаваны таксама арыгіналы карцін неўстаноўленых аўтараў, выдадзеныя ў пачатку нашага стагоддзя кнігі «Айчынная вайна і рускае грамадства», «Сусвет і чалавек», пазалочаныя малітвеннікі на нямецкай і яўрэйскай мовах, некалькі альбомаў з вельмі рэдкімі калекцыямі. /.../

Падазраваемыя ў вывазе кантрабанды затрыманы. Узбуджаны крымінальныя справы.

*/"Народная газета" ад 17 чэрвеня г.г./*

## Абвестка

7 ліпеня 1992 г. /аўторак/ у святліцы Гмiннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных адбудзецца ўстаноўчы сход Тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Пачатак сходу а 11 гадзіне. Арганізатары запрашаюць жыхароў гміны Дубічы-Царкоўныя і навакольных гмінаў ды таксама ўсіх зацікаўленых.




Дарагое Сэрцайка! Шукаю ў жыцці ратунку, але не магу яго нідзе знайсці.

Адразу мне не пашанцавала. Мела выйсці замуж, калі мне было 20 гадоў. Усё было ўжо падрыхтавана. Сукенка шлюбная пашыта. Бацькі рыхтавалі вяселле. Я ў Варшаве звольнілася з працы, аслабаніла месца ў інтэрнаце, вярнулася ў Беласток. А тут чую ад майго хлопца: „Ведаеш што, давай пачакаем крыху з гэтым вяселлем. Доўга думаў я і вырашыў, што яшчэ ўсё ж такі я не даспеў." Сказаў так спакойна, звычайна, быццам бы не было ў гэтым ніякай катастрофы. А я ж не толькі ў гэтым моманце страціла яго, я страціла працу, кватэру, наогул давер да людзей. Я ўжо не гавару пра той сорам, які прыпаў на маю долю: усе ж ведалі, што я выходжу замуж, не толькі краўчыха, якая шыла сукенку, ці мяснік, які рабіў вяндліну. Госці былі ўжо запрошаны, ды ўсё падрыхтавана ў царкве.

Супраць лёсу не пойдзеш. Больш мы з маім нарачоным не сустрэліся. Я не магла на яго глядзець.

Праз нейкі час сустрэла іншага хлопца, якога, як мне здалося, пакахала. Спакойны, скромны. Нарадзіла адно дзіця — памерла. Нарадзіла другое — крыху пажыло, памерла на другім годзіку жыцця.

Ці ўяўляеш ты сабе, Сэрцайка, як адчувае сябе маладая маці, якая хавае сваіх дзетак?! Што я перажыла, адзін Бог ведае. І вось цяпер штораз часцей мне прыходзіць у галаву думка, што кепска я зрабіла, што выйшла замуж за іншага. Мо лепш было б пачакаць таго першага каханага, пакуль не „даспее". Відаць, суджана было, каб ён быў усё ж маім мужам і бацькам маіх дзяцей...

**ТАНЯ**

Таня! Калі б было яму суджана быць тваім — дык быў бы. З тым даспяваннем па-рознаму бывае. Відаць, проста не кахаў так, як ты. Ён разбурыў не толькі твае мары, але і ўсю тваю псіхічную канструкцыю: ты ж верыла людзям, верыла ў жыццё. А ён перакрэсліў усё. Думаю, што той хлопец не варты тваёй увагі, тваіх успамінаў. І добра, што ты адразу парвала з ім.

Але... калі сапраўды суджана было вам быць разам і мець супольных дзяцей, дык, можа, і сустрэнецеся. Часамі чалавек „даспявае" вельмі позна.

**СЭРЦАЙКА**




Дарагі Астроне! Дала я табе крыху адпачыць ад маіх сноў, якія датычыліся майго мужа. Яны ўсе спраўдзіліся, усё сталася так, як ты пісаў. А цяпер вось сніліся тры сны, па парадку ў кожную ноч. Непакоюся, што і мяне асабіста штосьці дрэннае чакае.

Першы сон. Я на рабоце. Стаю ў дзвярах суседняга пакоя. У ім калега, які там працуе, нейкія чужыя людзі. Людзі ўстаўляюць туды нейкія стальныя канструкцыі. Іх многа, цесна ў пакоі. Потым я з сяброўкай у наступным пакоі. Там дзеецца тое ж, што ў папярэднім. Тыя людзі кажуць, што вось тут лепш, бо большы пакой.

Другі сон. Я ў поездзе. Толькі выглядае ўсё інакш, чым у сапраўдным цягніку. Гэта нейкая агульная зала, у якой многа людзей. Я апранута ў кажух. Ён пашыты так, як калісьці шылі кажухі на вёсцы. Людзі падказваюць мне і сама я прадчуваю, што як поезд затрымаецца, нейкія людзі, што тут едуць, здзяруць той кажух з мяне. Адных я бачу, яны сядзяць з правага боку, апранутыя ў чырвоныя кафтаны. Мне страшна. І прачнулася я.

Трэці сон. Мае дзве сяброўкі з работы і я. Пячэм нейкія пірагі, булачкі. Паклалі на бляшку і я саджаю іх у духоўку, каб спячы, а сяброўкі каля мяне стаяць.

**Марыя**

Марыя! Усе твае сны пра месца працы. Чакае цябе там нейкая небяспека (цягнік). Стальныя канструкцыі датычаць, бадай, нейкіх цвёрдых, як сталь, пастаноў. Нешта захістаецца. Страціш самастойнасць (тыя людзі ў вялікай зале). Твой страх за свой кажух, які нехта можа здзерці, абазначае, што баішся застацца на лёдзе, без працы і грошай. Ну, што ж, сёння гэта не навіна! Ты з сяброўкамі, на дадатак, пякла пірагі. Чакае вас небагатая бліжэйшая будучыня.

**АСТРОН**

## ШМАТПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Брацтва праваслаўнай моладзі Варшаўска-Бельскай епархіі ў Бельску-Падляшскім паведамляе вам, што ўзялося выдаць апісанне праваслаўнага прыхода ў Чорнай-Царкоўнай, складзенае ў 1889-1890 гадах а. Аляксеем Валкоўскім, пад загалоўкам «Церковно-приходское и статистическое описание Чернянской церкви и прихода».

Гэты дакумент - каштоўная крыніца ведаў аб мінулым Праваслаўнай царквы на Беласточчыне, прадстаўляе таксама штодзённы матэрыяльны побыт прыхадское беларускае грамадскасці канца XIX стагоддзя. Падобныя архіўныя матэрыялы - сёння вялікая рэдкасць. Дзякуючы яго вартасцям, лічым адпаведным прадставіць гэты дакумент шырокім кругам насельніцтва нашага рэгіёна.

З выданнем гэтага дакумента звязаны, аднак, значныя кошты, дасягаючыя на сённяшні дзень каля 15 мільёнаў злотых. Такой сумай, на жаль, Брацтва праваслаўнай моладзі не распараджаецца. Разлічваючы на прыхільны водгук паважаных спадароў і спадарынь на нашу ініцыятыву, звяртаемся да вас за дапамогай у форме хаця б сімвалічнай фінансавай падтрымкі. Мы са свайго боку прапануем пакупку рыхтаванага намі выдання на правілах падпіскі /субскрыпцыі/. Калі зможам да канца жніўня г.г. сабраць адпаведныя сродкі, кніжка паявіцца ўжо ў кастрычніку. Каб яе купіць, хопіць уплаціць 15 тысяч злотых на рахунак: 5526-80725-136 II ПКО Беласток, з дапіскай «Чорная-Царкоўная» /пасля выдання кнігі перашлем яе на адрас падпісчыка/. Кожны ахвярадаўца, які ўплаціць больш гэтай сумы, будзе лічыцца спонсарам публікацыі, а яго прозвішча - калі не абумовіць сабе ананімнасці - будзе змешчана ў спіску ахвяравальнікаў.

Іншыя інфармацыі наконт выдання і яго пакупкі можна атрымаць, пішучы на адрас:

17-100 Бельск-Падляшскі, вул. Міцкевіча 36, Брацтва праваслаўнай моладзі Варшаўска-Бельскай епархіі ў Бельску-Падляшскім.




— 65 —

### РАЗДЗЕЛ XXVI

**Адносіны беларускіх палітыкаў з зарубежжам: Берлінам, Венай, Парыжам, Лонданам. Польска-літоўская канферэнцыя ў Бруселі.**

Было ўжо раней сцверджана, што беларускія палітыкі імкнуліся беларускую справу ўзвесці на міжнародны форум. Апрача прыведзеных ужо мемарыялаў у Лігу нацый, апрача канферэнцыі ў Празе варта адзначыць факты меншага значэння — адносіны з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі.

Вядома, што пасля заключэння дамоўленасці паміж Ковенскай Літвой і ўрадам Ластоўскага (11-XI-20 г.) выехала ў Берлін беларуская дэлегацыя, заданнем якой было правядзенне размоў у справе атрымання пазыкі.

Беларусы мелі інфармацыю наконт таго, што адносіны англійскага вайсковага прадстаўніка ў Коўне да праекта федэрацыі Беларусі з Ковенскай Літвой былі вельмі прыхільныя. Беларусы імкнуліся да свабоднай і незалежнай Беларусі. Калі б аднак атрыманне незалежнай і свабоднай дзяржавы аказалася немагчымым, беларусы праектавалі стварыць беларускі кантон з Вільняй, якая мела быць яго сталіцай. Спалучэнне гэтага кантона з ковенскім кантонам стварыла б беларуска-літоўскую дзяржаву. Праект гэты ўзнік пад уплывам „праекта Гіманса" і трактаваў Вільню як беларускі горад.

Калі б у канцы і другая канцэпцыя не здзейснілася, аставалася яшчэ трэцяя, найбольш сціплая, якая зводзілася да шырокай аўтаноміі ў межах літоўскай дзяржавы.

Для паразумення з англічанамі, якія, як ужо было сказана, прыхільна глядзелі на праект беларуска-літоўскай федэрацыі Лур'е, старшыня беларускай дэлегацыі ў Берліне прыбыў 22 лютага 1921 г. у Парыж і зрабіў намаганні атрымаць візы на ўезд у Лондан, імкнучыся здабыць прыхільнасць да беларускай справы з боку палітычных колаў Лондана.

Калі ў Берліне праводзіліся нямецка-беларускія размовы пад старшынствам Лур'е, у Вену прыехала дэлегацыя на з'езд сацыялістычных партый у складзе: Грыб і Бароўскі, якія былі прадстаўнікамі беларускіх эсэраў. Дэлегаты падкрэслілі, што яны нічым не звязаны з берлінскай дэлегацыяй, і назвалі яе **самазванчай** і „авантурысцкага характару". Апрача гэтага, дэлегаты сцвердзілі, што берлінская дэлегацыя супрацоўнічала з аднаго боку з нямецкімі і рускімі манархістамі, а з другога боку кантактавалася з бальшавікамі.

На пачатку 1921 г. праводзілася ў Бруселі польска-літоўская канферэнцыя.

Урад Ластоўскага 6-IV-1921 г. накіраваў старшыні канферэнцыі ў Бруселі ліст, у якім прасіў допусціць дэлегацыю беларускага ўрада на канферэнцыю, якая мела раздзяліць беларускае насельніцтва паміж Польшчай і Літвой.

У прыгаданым лісце Ластоўскі падкрэсліў, што адзінай мяжой паміж Польшчай і Літвой павінен быць Аўгустоўскі канал. На захад і поўнач ад такой мяжы знаходзілася выключна беларуская тэрыторыя. Дзеля справядлівага вырашэння гэтага пытання, належала б гэтыя тэрыторыі перадаць пад уладу легальнага беларускага ўрада.

Аднак не вельмі верачы ў магчымасць стварэння беларускай дзяржавы, Ластоўскі ўключыў у свой ліст і такі фрагмент:

„Калі б у дадзены момант з якіх-небудзь прычын выклікала гэта цяжкасці (перадача беларускіх тэрыторыяў беларусам), беларускае насельніцтва віленскай і гродзенскай земляў з увагі на федэрацыйнае пагадненне, якое існуе паміж літоўскім і беларускім урадамі, хацела б бачыць сваю ўласную тэрыторыю, уключаную часова ў межы Літоўскай рэспублікі".

*(Працяг будзе)*

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыйны калектыў „Нівы" прыносіць сардэчную падзяку спадарыні **Зоі Смаршчок** з Бельгіі за грашовы дар для падтрымання нашай газеты; на днях мы атрымалі перавод на суму 1 мільёна 668 тысяч злотых. Грошы гэтыя выкарыстаем на неабходнае матэрыяльнае забеспячэнне журналісцкай працы (паперу для пішучых машынак і камп'ютэрнай друкаркі, пісьмовыя прылады і матэрыялы ды г.п.). Акрамя гэтага матэрыяльнага вымярэння, дар мае для рэдакцыі і другое, не менш істотнае, маральнае вымярэнне прыхільнасці і падтрымкі ў адносінах да „Нівы".

Дзякуем!

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4003. Праваслаўная парафія ў Кляшчэлях | 208.000 зл. |
| 4004. Акруговая малачарская спулдзельня ў Бельску-Падляшскім | 2.000.000 зл. |
| 4005. Міхал Дулько /Белавежа/ | 50.000 зл. |
| 4006. Дзмітры Ярашэўскі /Слупск/ | 100.000 зл |
| 4007. Праваслаўная парафія ў Ялоўцы | 100.000 зл. |
| 4008. Праваслаўная парафія ў Юшкавым Грудзе | 100.000 зл. |
| 4009. Гмінная спулдзельня «Самапомац хлопска» ў Орлі | 500.000 зл. |
| 4010. Гмінная ўправа ў Чаромсе | 2.000.000 зл. |
| 4011. Яланта Вішнеўская /Гайнаўка/ | 60.000 зл. |
| 4012. Марак Сабалеўскі /Варшава/ | 55.000 зл. |

Дзякуем:

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК – ПІК

**МЫШКА ПІК-ПІК ЛАДЗІЦЬ СВОЙ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ**

Пасля Веранічнага дня нараджэння мышка Пік-Пік не магла супакоіцца: чаму гэта ў Веранічкі ёсць дзень нараджэння, а ў яе, прыгожай мышкі - няма?

-Хачу падарункі і гасцей! - усклікнула мышка. - Аб'яўляю сённяшні дзень сваім днём нараджэння!

Пік-Пік нездарма была адукаванай мышкай: праблему склікання гасцей яна вырашыла геніяльна проста: узяла ў пісьмовым стале аркуш паперы, Веранічныны алоўкі і напісала аб'яву вялікімі крывымі літарамі:

*Абява!*
*Сёня у мышкі Пікпік дзеньнараджэня*
*прымаю падарункі апоўначы ля уваходаў норку*
*Пікпік*

Мышка ўзяла пластылін і прычапіла аб'яву на шафу. Але пасля зноў пачала трывожыцца: а ці прынясуць ёй тое, што ёй хочацца?! Ці здагадаюцца,. якія падарункі жадае бедная мышка?

І Пік-Пік напісала яшчэ адну аб'яву:

*Спіс падарункаў.*

У гэтай аб'яве мышка пералічыла, хто і што павінен ёй прынесці.

Самая вялікая адказнасць ускладалася на маму:

*Мама - тры тарты.*

Спачатку мышка заказала адзін торт, пасля падумала, закрэсліла слова «адзін», напісала «два». Аднак і гэта падалося малавата, і Пік-Пік перaправіла «два» на «тры». Трох торцікаў павінна было хапіць. Далей у спісе быў тата:

*Тата - яблыкі (многа)*

Тата павінен быў прынесці не менш як кошык яблычкаў. Пепіта таксама мусіла ўдзельнічаць у свяце і купіць дзве бутэлькі ліманаду.

Нарэшце, Веранічка падорыць шакаладку і мяшок цукерак.

Мышка перачытала свае сціплыя запыты і, вельмі задаволеная, прычапіла другую аб'яву каля першай.

Тата, мама і Веранічка вярнуліся з прагулкі і адразу ўбачылі на шафе дзве паперкі. Мама прачытала іх услых і засмяялася.

- Вось выдумка! - абурылася Пепіта. - Буду я ёй, шкодніцы, ліманад насіць!

- І я цукерак ёй не дам! - сказала Веранічка. - Яна і так іх кожную ноч з вазачкі цягае!

- Але ў яе дзень нараджэння! - запярэчыла мама.

- Вы як сабе хочаце, - загаварыў тата, - а я апоўначы буду спаць. І вам раю.

І ён лёг на канапу і пачаў чытаць газету.

- Я прыдумала! - усклікнула Веранічка. - Мы дамо гэтай нахабніцы тое, што яна просіць!

Веранічка пайшла ў свой пакойчык, узяла паперу і алоўкі і намалявала тры прыгожыя тарты. На другім

*Працяг на стар. 10*



*Марта Драль - выдатніца «беларускай школкі» ў Беластоку.*

**Фота М. Лукшы.**

# КУПАЛЛЕ

У ноч з 6 на 7 ліпеня (з 23 на 24 па старому стылю) у Беларусі адзначалася адно з самых прыгажэйшых і паэтычных народных свят - Купалле. Усё навокал здавалася ў гэту ноч незвычайным, узвышаным, непаўторным. Фантастычнае купальскае вогнішча, казачная прыгажосць, пошукі папараць-кветкі, прысутнасць духаў... Напярэдадні Купалля хлопцы і дзяўчаты выбіралі лідэра са свайго асяроддзя, які кіраваў масавым шэсцем моладзі па вуліцах вёскі. Усе ўдзельнікі ўпрыгожвалі сябе зелянінай, дзяўчаты - вянкамі, падпярэзваліся паясамі з палыну, запальвалі доўгія жэрдкі і з песнямі, крыкамі, галёканнем падыходзілі да кожнага дома, запрашалі ўсіх на свята. Хлопцы і дзяўчаты гулялі ўсю ноч вакол купальскага вогнішча, вадзілі карагоды, скакалі праз касцёр, гатавалі сумесную вячэру. Дзяўчаты плялі вянкі і пускалі іх на ваду, загадваючы аб будучым замужжы. Верылі, што купальскі агонь валодаў незвычайнай сілай, таму часта на вогнішчы спальвалі кашулькі хворых дзяцей, каб яны хутчэй выздаравелі. Старыя людзі, кідаючы ў вогнішча старыя непатрэбныя рэчы, прасілі багатага ўраджаю.

Лічылася, што ў гэту ноч актывізаваліся розныя нячысцікі, ведзьмы. Каб засцерагчыся ад іх, на ганку хляювоў клалі крапіву, коней не вадзілі на начлег.

Усю ноч каля купальскага вогнішча гучалі песні, музыка, смех. Раніцой ішлі сустракаць узыход сонца. Існаваў звычай качацца галяком у ранішняй расе, каб набрацца здароўя і прыгажосці.

Раскладайце, паліце
Купалля агні!

Не затым, каб ускрэсла
мінуўшчына,

А каб лепей убачыць
наступныя дні,

Да вытокаў душой
дакрануўшыся.

*(Ніл Гілевіч)*

**Т. КУХАРОНАК**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА**

### Я МАЛЮЮ...

Краю роднага прасторы
Маляваць люблю я.
Ранак,
Поўдзень,
Адвячорак,
Нават ноч малюю,
Ясны месяц, што з-за хмары
Зазірае ў хаты.
- А чаму чырвонай фарбай? -
Запытаўся тата.
- А таму, што ярка гэтак
Ззяюць ноччу зоркі
І суніцы цёплым летам
Спеюць на пагорку.
Не хачу, каб чорнай хмарай
Слаўся дым над нівай,
А таму заўжды малюю
Фарбаю шчаслівай.

**ВАСІЛЬ ЗУЁНАК**

### КЛЮЧЫ

Гэткі нораў у сарок -
Па галінах скок ды скок:
- Ча-ча-ча! Чы-чы-чы!
Пагубляла я ключы.
Дзядзька сыч, добры сыч,
На хвілінку ключ пазыч!

Адамкне сарока хату
І крычыць старому дзятлу:
- Надакучыла мне ў хаце,
Дай ключа, дзядуля дзяцел,
Бо свае ўсе пагубляла,
Хату год не замыкала.

А праз момант да вароны
Падлабуніцца з паклонам -
Скок ды скок, верць ды круць:
- Нечым хату адамкнуць.
Пад замком дзіця крычыць.
Я ж забыла, дзе ключы...

Ні ў вароны, ні ў сыча
Больш няма свайго ключа...

Дзяцел новы скаваў
І ў дупло схаваў.

А назаўтра сто сарок
Каля дзятла скок ды скок:

- Ча-ча-ча! Ча-ча-ча!
Дай ключа! Дай ключа!

А найбольш адна крычала,
Што ключы ўсё пазычала.
Дзяцел выслухаў, вядома,
І сказаў старой знаёмай:

- Ча-ча-ча? Верць ды круць?
Любіш быць узяхай?
Не забудзь тады -
Пабудзь
Хоць разок аддахай!



# УЖО ГОД МЫ СУСТРАКАЕМСЯ...

Ужо год існуе ў Беластоку «беларуская школка». З гэтых дзяцей, якія сустракаліся кожную суботу ў гасцінным доме спадарства Стахвюкоў, сямёра было найбольш салідных. Сёння, на заканчэнне школьнага года, на гэты раз у чацвер, прыйдуць яны зноў, урачыста апранутыя і ў святочным настроі.

Ужо ў ліфце сустракаю ўсхваляваных бацькоў Марты. Дома на кухні рыхтуе пачастунак пані Альжбета, бегае задаволены таксік Бім (называюць яго «возьным» - сваім звонкім «гаў-гаў» заўсёды пачынаў і канчаў урокі), Паўлік рэпетуе сваю прамову-падзяку, а настаўнік Ян Мордань і спонсар школкі Віктар Стахвюк кончаць выпісваць прыгожыя пасведчанні...

Пачынаецца ўрачыстае заканчэнне школьнага года. Слова



*- Глядзі, Ася, у мяне за чытанне - «узорна»!*

бярэ спадар Віктар.

- Што мяне найбольш цешыць? Гэта тое, што ўдалося нам пачаць навучанне беларускай мовы ў Беластоку! У наступным годзе павінна нам удасца сфармаваць дзве групы, якія далі б пачатак ужо фактычнай школкі, што магла б перарасці ў нармальную пачатковую школу ў Беластоку. А гэта дзякуючы такім дзецям, як вы, дзякуючы таму, што ў вашых сэрцах паявілася жаданне вывучаць родную мову, даведацца, адкуль мы родам...

Калі спадар Віктар быў яшчэ студэнтам і збіраў фальклор над Бугам, сустрэўся з настаўнікамі, якія хацелі даказаць, што дзіця, якое ведае родную беларускую мову ці яе дыялект, робіць потым шмат памылак. Але вучоныя даказалі, што двухмоўныя дзеці намнога лепш развіваюцца інтэлектуальна, хутчэй вучацца, думаюць больш лагічна, шырэйшае ў іх разуменне свету, чым у дзяцей, якія выхоўваюцца ў адной культуры, валодаюць толькі адной мовай.

Віктар Стахвюк вельмы рады выдатным вынікам вучняў і мае надзею, што пасля летняга адпачынку (хіба зноў будуць разам адпачываць, як і зімой) у верасні ўсе зноў сустрэнуцца на занятках.

Ян Мордань успамінаў, як утварылася гэтая школка.

- Знайшліся людзі, якія ХАЦЕЛІ навучаць і хацелі вучыцца. Я стараўся, каб заняткі былі прыемнасцю і для мяне, і для маіх вучняў.

Найлепшай вучаніцай была Марта. За чытанне - ацэнка на 6! І падарунак - кніжка. А вось вынікі Асі: чытанне - выдатна, пісанне - выдатна, веды пра Беларусь - добра. І хлопцы ўсе ішлі роўна... Настаўнік падзякаваў гаспадарам за тое, што стварылі такі цудоўны настрой для працы і забавы; за тое, што ў іх кватэры ўсе адчувалі сябе як дома, а можа і лепей...

Абавязкова, сустрэнуцца яны ўсе зноў у верасні! І, пэўна, будзе іх намнога больш!

**М. ЛУКША**



*Ян Мордань і Віктар Стахвюк выпісваюць пасведчанні.*



*За святочна накрытым сталом - Раман, Ася, Марта, спадары Віктар і Ян, Паўлік і Збышак. Адсутнічае - Ада (наймалодшая вучаніца).*



*Паўлік узрушана чытае: «Шчыра дзякуем за навучанне нас на працягу года, за веды пра нашу Бацькаўшчыну Беларусь, пра яе гісторыю, культуру і прыроду. У наступным годзе будзем лепшымі вучнямі!»*



*А цяпер - узнагароды!*

**Фота М. Лукшы**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

*працяг са стар. 9*

аркушы паперы Веранічка намалявала кошык з яблыкамі, на трэцім - бутэлькі з ліманадам, на чацвёртым - шакаладку і цукеркі.

- Вось і падарункі! - Веранічка весела смяялася, і Пепіта смяялася, і мама пасмяялася, але потым пахістала галавой і моўчкі пайшла на кухню.

Мышка не магла дачакацца поўначы. Як толькі сцямнела, яна ўжо стаяла перад сваёй норкай і прытупвала ножкай. І вось нарэшце падыйшлі госці. Веранічка і Пепіта, хітра ўсміхаючыся, працягнулі Пік-Пік малюнкі. Мышка няўцямна ўзяла іх, разгледзела...

- Гэта што?!

- Падарункі! Тое, што ты прасіла!

- Вы што, здзекуецеся? Я што, паперу буду есці?!

Мышка не на жарт раззлавалася і пакрыўдзілася. Але тут з кухні прыйшла мама і паставіла перад мышкай невялікі, але вельмі прыгожы торцік і збанок з малінавым кампотам. І тады ўсе, і мышка, і Пепіта, і Веранічка закрычалі «Ура!» і заскакалі ад радасці.

Мама прынесла кожнаму кубачак, талерку і лыжачку, разліла кампот, падзяліла торцік. Усе, нават мышка, наеліся, а пасля заспявалі вясёлую песню пра гасцей, ды так гучна, што пабудзілі тату. Ён узяў сваю пантофлю, шпурнуў праз расчыненыя дзверы ў бок спеваў і зноў заснуў. Пантофля ўпала якраз перад мышкай.

- О, вось і татаў падарунак! - узрадавалася Пік-Пік. - Будзе мне канапа!

І Пік-Пік пацягнула татаву пантофлю ў норку. А Веранічкчыны малюнкі прычапіла над сваёй новай канапай. Атрымалася вельмі прыгожа.

Вось так адзначылі дзень нараджэння мышкі Пік-Пік.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

**РОБІМ З МЫЛА ШЫЛА!**

Замяніўшы ў пададзеным слове адну літару на іншую, атрымаеш слова, якое трэба адгадаць.

1. БОЛЬ Шмат людзей, і ўсе танцуюць, Весяляцца і жартуюць.
2. РУКА Адгадаць - не бяда: Проста цячэ вада.
3. ГУМА Яна ад до да до, Можна заспяваць. Падумай крыху, І не цяжка разгадаць.
4. ТРУД Можа да цябе прычапіцца, Калі не будзеш мыцца.
5. ХАТА Белая, а не снег, Мяккая, а не мех.
6. КЛАС Вучняў у... напітак зменіш, Калі літару заменіш!
7. НАРА Хто гэта адгадае: Не рука, а пальцы мае?
8. СЕРБ Беларускага не дагоніш, Бо гэта - «Пагоня».
9. ХАТА Што гэта за «госць»: Кожны дзень яна ёсць?
10. ГОРА Адна з другой не спаткаюцца, Змяніўшы літару - адгадаецца.
11. ШПІК Хоць і дзяўбе вішні, У садзе ён не лішні.

Адказы: баль, рака, гама, бруд, вата, квас, нага, герб, дата, гара, шпак.

**Падрыхтаваў «Здань»**

УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

## ХТО ВЫКРАЎ КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ

*(пачатак у 25 н-ры)*

Але наша гаворка — пра адысею крыжа Еўфрасінні.

Напрыканцы XIX стагоддзя сябра рады Полацкага царкоўнага брацтва святар М. Дуброўскі зрабіў вопіс рэліквіі, які цікава параўнаць са звесткамі пададзенага вышэй акта. Паводле першага вопісу, з 20 эмалевых абразкоў на крыжы няма аднаго, а пяць іншых — пашкоджаныя. У 1929 годзе тры выявы святых ужо выламаныя, а 13 — папсаваныя. З усіх каштоўных камянёў ацалелі два — аметыст і гранат. На месцы астатніх засталіся пустыя гнёзды або з'явіліся кавалачкі align рознакаляровага шкла. На верхняй папярочыне не хапала двух кавалкаў золата і дрэва. Як бачым, „ваяўнічыя атэісты", а дакладней — варвары-бязбожнікі, за лічаныя гады ўчынілі святыні шкоду шматкроць большую за ўсе страты папярэдніх сямі з паловаю стагоддзяў.

Па ўспамінах магілёўскага краязнаўцы і былога супрацоўніка музея Ераніма Філіповіча, на новым месцы крыж Еўфрасінні змясцілі ў музейную экспазіцыю, але шмат хто з наведнікаў, асабліва жанчыны, пачалі перад святыняю маліцца і адбіваць ёй паклоны. Напэўна гэта таксама адыграла ролю ў перавозе крыжа з музея ў будынак былога зямельнага банка, дзе ў 30-ыя гады мясціліся абкам і гаркам партыі. Будынак меў адмысловы пакой з масіўнымі кратамі на вокнах і бранiраванымі дзвярыма таўшчынёю 15 сантыметраў, за якімі былі яшчэ адны — кратаваныя. Менавіта ў гэтым пакоі-сейфе колішняга банка на пачатку вайны разам з іншымі найкаштоўнейшымі музейнымі экспанатамі ляжаў крыж Еўфрасінні Полацкай. Згодна афіцыйнай версіі, адтуль у 1941 годзе яго выкралі фашыстоўскія захопнікі.

Але ці ж так было ў сапраўднасці? Магілёў жа знаходзіўся за паўтысячы кіламетраў ад дзяржаўнае мяжы, і час дазваляў правесці эвакуацыю скарбаў. Гэта і нарадзіла чуткі, што рэліквія паехала ў гады ваеннага ліхалецця на ўсход. Такім размовам спрыяла і тое, што і афіцыйныя ўлады, і гэтак званыя кампетэнтныя органы чамусьці пазбягалі расследавання або праводзілі яго таемна, не паведамляючы вынікаў.

У 60-я гады Магілёўскі абласны музей звярнуўся з запытам наконт лёсу крыжа ў Эрмітаж. Адтуль прыйшоў не падмацаваны ніякімі дакументамі адказ, што крыж Еўфрасінні Полацкай трапіў у зборы мільянераў Морганаў і знаходзіцца ў Нью-Йорку.

Праз нейкі час гэтая заблытаная гісторыя прыцягнула ўвагу вядомых вучоных супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР літаратуразнаўцы Адама Мальдзіса і археолага Георгія Штыхава. Вынікам іхняе паездкі ў Магілёў стаўся зварот да вышэйшых рэспубліканскіх інстанцый, пасля чаго названых вучоных, а таксама дырэктара абласнога музея I. Скварцова і былога дырэктара I. Мігуліна выклікаў да сябе тагачасны намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі I. Клімаў, які ўзначальваў Рэспубліканскае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Як прыгадвае Скварцоў, размова адбывалася прыкладна ў такім тоне:

„Клімаў: Что вам нужно?

Скварцоў: Мне лично ничего не нужно. Пропали ценнейшие белорусские реликвии, но ими никто не интересуется.

Клімаў: Какие у вас есть документы?"

Дырэктар музея працягнуў чыноўніку адказ з Эрмітажа пра знаходжанне крыжа ў калекцыі Морганаў. Прачытаўшы паперыну, Клімаў павярнуўся да I.Мігуліна, які ўзначальваў магілёўскі музей напярэдадні вайны: „Ну, расскажи, старик..."

I той падзяліўся ўспамінамі, як у першыя дні вайны яго ўзялі ў апалчэнне, а 29 чэрвеня 1941 года ён з двума такімі самымі апалчэнцамі апынуўся каля горада Бялынічы, дзе яны рэквізавалі коней і вярнуліся ў Магілёў. Там ён прыйшоў у абласны ваенкамат і запатрабаваў транспарт для эвакуацыі свайго музея, але нічога не дасягнуў і заняўся эвакуацыяй жонкі і двух малых дзяцей. На станцыях з вагона нікога не выпускалі, і пра ўзяцце Магілёва немцамі Мігулін даведаўся толькі на пятнаццатыя суткі.

Клімаў паспачуваў, зазначыўшы, што і сам ведае, як цяжка было праводзіць эвакуацыю. Гутарка скончылася перадачаю яму копіі акта аб стратах абласнога музея ў выніку нямецкае акупацыі.

Пра гэта ў артыкуле „Таямніца крыжа" ў 1990 годзе распавёў на старонках газеты „Советская Белоруссия" супрацоўнік Магілёўскага абласнога аддзялення Беларускага фонда культуры В. Юшкевіч. Вышэйназваны акт з прычыны яго важнасці для пошукаў страчаных нацыянальных каштоўнасцяў прыводзім цалкам.

АКТ

22.XII.1944 года.

гор. Могилев.

Мы, нижеподписавшиеся, комиссия в составе 3-х человек: директора музея тов. Мигулина Ивана Сергеевича, учителя Мог. педучилища тов. Авсеенкова Вячеслава Дмитриевича и инжинера Мог. обл. к-ры промбанка тов. Кроера Сергея Митрофановича с участием эксперта-свидетеля художника г. Могилева тов. Пономарева Владимира Александровича составили настоящий акт об ущербе, причиненном немецко-фашистскими захватчиками и их сообщниками Могилевскому областному государственному историческому музею, находящемуся в г. Могилеве по ул. Ленинской.

Сожжено и разграблено немецкими оккупантами в 1941 году. Перечень отдельных видов разрушенного, уничтоженного, расхищенного и поврежденного имущества. *(Далей прыводзіцца спіс васемнаццаці відаў загінуўшых музейных каштоўнасцей; крыж Еўфрасінні запісаны на дзесятым месцы. — рэд.).*

*(Працяг будзе)*




### З РУСКАЙ КУХНІ

**Чай**

На 1 літр вады (найлепш — мяккай) трэба ўзяць 5 лыжачак сушаных лісткоў чорнага чаю (аднаго з кітайскіх ці грузінскіх сартоў). Гэтага чаю хопіць на 4 асобы, а падрыхтоўваюць яго ў суме 15 мінут (само заварванне — толькі 4 мінуты).

У металічным, пабеленым ці эмаліяваным чайніку, а найлепш у самавары з драўнінным вугалем давесці ваду да стану так званага белага кіпення. Гэта другая стадыя кіпення вады, у часе якой вада крыху мутнее, а таксама чуваць характэрны шум. У ніякім выпадку нельга кіпяціць ваду даўжэй.

Чайнічак для заварвання чаю (фарфоравы ці фаянсавы) аб'ёмам каля 1 літра тры разы абліць кіпетнем і абсушыць. Чайнік павінен нагрэцца да тэмпературы каля 50 градусаў. Тады ўсыпаць чай і заліць яго 1/2 літра кіпетню. Накрыць пакрыўку і дзюб чайніка ільнянай сурвэткай або мяшочкам, напоўненым лісцьмі чаю. Так чайнік павінен стаяць 4 мінуты, пакуль чай не заварыцца. На паверхні чаю павінна паказацца пена.

Тады завараны чай перамяшаць, даліць кіпетню і разліваць яго ў фарфоравыя кубачкі. Чай заўсёды павінен быць свежы.

Па традыцыі ў Расіі пілі горкі чай, падаючы асобна кавалкі цукру, варэнне, пячэнне і іншыя салодкія рэчы. Для яго падрыхтоўкі выкарыстоўваўся спецыяльна дзеля гэтага прыдуманы посуд, які называўся самаварам. Канструкцыя яго (самавар хутка стаў адным з сімвалаў Расіі) дазваляла дакладна „злавіць" момант, калі вада ўваходзіла ў стадыю „белага кіпення", што давала магчымасць падаваць незвычайна араматны чай.

**Мядовы квас**

Прадукты: 300 г пчалінага мёду, 80 г разынак, 1 лімон, нарэзаны скрылёчкамі, 1 лыжачка мукі, 10 г дражджэй, 6 літраў вады.

Падрыхтоўваецца квас на працягу 18 гадзін.

Мёд, разынкі і лімон змясціць у вялікім каменным посудзе. Заліць кіпетнем, а калі ён астыне, дадаць дрожджы, перамяшаныя з мукой і разведзеныя дзвюма лыжкамі вады.

Паставіць квас на 16 гадзін. Калі разынкі і лімоны выплывуць наверх, выняць іх, квас разліць у чыстыя, выпараныя бутэлькі з тоўстага шкла, напаўняючы іх да 6/7 аб'ёму. Шчыльна заткнуць коркамі і трымаць у халодным месцы.

**ГАСПАДЫНЯ**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Дзякуй ракавінкам!**

У барацьбе за чысціню марской вады чалавецтва не адзінокае, вялікая заслуга ў гэтай справе губак і ракавінак.

Прапускаючы ваду праз свае цела, яны вызваляюць яе ад узважаных часцінак, якія ідуць у асадак і ўтвараюць глей. Звычайная мідыя фільтруе за гадзіну 3,5 літра вады.

**Чалавек і хваробы**

У Амерыцы правялі надзвычай цікавыя доследы над залежнасцю паміж рысамі характару і захворваннямі на розныя хваробы. Доктар Караліна Томас даследавала больш чым 1000 студэнтаў медыцынскай акадэміі ў Балтымары, а пасля гэтага сачыла за далейшым іх жыццём, калі ўжо яны пачалі працаваць прафесіянальна.

У даследваемай групе 130 асоб захварэла на адну з такіх хвароб, як, напрыклад, артэрыясклероз, павышаны ціск крыві, рак, псіхічныя хваробы, а таксама схільнасці да самагубстваў, 47 памерла, а шаснаццаць закончыла жыццё самагубствам.

Як і трэба было спадзявацца, ахвяры самагубстваў і псіхічных хвароб ужо раней выказвалі схільнасць да дэпрэсійных станаў і нервовага напружання. Самагубствы характарызавалі групу найбольш трывалых курцоў; найчасцей былі гэта людзі худыя і касцістыя. У сваю чаргу ахвяры псіхічных хвароб належалі да групы аматараў чорнай кавы і ў большасці цярпелі на бяссонніцу.

Выявілася таксама, што высокі ўзровень халестэрыну ў крыві сам па сабе не з'яўляецца паказчыкам хваробы сэрца. У ахвяр хвароб сэрца сцверджаны на самай справе высокі ўзровень халестэрыну. Адрознівалі іх вельмі выразна акрэсленыя рысы: схільнасць да дэпрэсіі, нервовае напружанне, рэагаванне гневам на розныя канфліктныя сітуацыі.

Найцікавейшым, аднак, аказалася выразная сувязь паміж тыпам чалавека і захворваннем яго на рака. Людзі, якія пазней захварэлі на рака, выказвалі найменшую схільнасць да дэпрэсіі і нервовага напружання. Яны былі спакойныя, мала агрэсіўныя, далікатныя. Але падобна, як самабойцы і псіхічна хворыя, прызнаваліся, што не маюць абсалютна ніякіх пачуццёвых кантактаў з бацькамі. Гэтыя вынікі даказалі таксама, што доўгатрывалае нервовае напружанне можа прывесці ў канцы да гарманальных змен і аслаблення імуналагічнай сістэмы.

**(а — яц)**

## ВАКАЦЫЙНЫЯ ІМПРЭЗЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ

Беларускае аб'яднанне студэнтаў і Звяз беларускай моладзі запрашаюць усіх ахвотных на наступныя мерапрыемствы:

**1. Купалле** - уначы з 6 на 7 ліпеня ў Кляшчэлях;

**2. «Бацькаўшчына»** - дзевяты ўжо рэйд беларускіх студэнтаў з такім назовам, пачынаецца на гэты раз 7 ліпеня ў Кляшчэлях, а вось маршрут:
- 7.07 - Кляшчэлі - Вулька-Тэрахоўская;
- 8.07 - Вулька-Тэрахоўская - Зубачы;
- 9.07 - Зубачы - Клюковічы;
- 10.07 - Клюковічы - Вілінава;
- 11.07 - Вілінава - Мутная.

У Мутной рэйд і закончыцца.

**3. «Басовішча»** - 17-19 ліпеня ў Гарадку.

**4. IV Рэйд праваслаўнай моладзі** - 25-30 ліпеня.

Удзельнікі сустракаюцца 25 ліпеня пасля поўдня каля царквы ў Ялоўцы, каб вандраваць:

26.07– з Ялоўкі ў Бабро ўнікі,
27.07– з Бабро ўнік у Страшава,
28.07– са Страшава ў Новую Волю,
29.07– з Новай Волі ў Старое Ляўкова,
30.07 Старое Ляўкова - Семяноўка.

Арганізатары зазначаюць, што трэба ўзяць з сабою: спальны мяшок, грошы, яду. Цана рэйду - 70 тысяч злотых. Інфармацыю пра рэйд можна атрымаць у Міраславы Каўбасюк, па тэлефоне 511-250 /у Беластоку/.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Звяртаем Вашу ўвагу, што ад гэтага нумара экземпляр нашага тыднёвіка каштаваць будзе 2000 злотых.

Гэтае прыкрае рашэнне выклікана агульным павышэннем коштаў прадукцыі і слабой фінансавай кандыцыяй рэдакцыі.

## МАКАТРАЗМЫ

### ПА ДЫЯМАТУ

Канула ў Лету Парпія.
Па дыямату скок-прагрэс.
— Сілаю вядучаю буду я! —
Сказаў таварыш „С".

**Д-Р З. ЯНЮК**

Спеў пад парпісцкімі гужамі,
Цяпер катахэт заслужаны.

**СІДАР МАКАЦЁР**

### КАМБАЛА І КІТ

У школе ідзе ўрок заалогіі. Тэма ўрока — „Рыбы". Настаўніца пытае:

— Дзеці, скажыце, якая рыба самая тоўстая?

— Камбала, камбала!

— Дзеці, а ў якой рыбы адно вока?

— У камбалы!

— Дзеці! А чаму камбала пляскатая?

— Дзеці маўчаць. Руку падымае Вовачка.

— Марыя Іванаўна, напэўна, гэту камбалу кіт згвалціў.

— Вовачка, выйдзі з класа, на перапынку пойдзеш да дырэктара!

На наступным уроку заалогіі. Тэма ўрока — „Рак". Настаўніца растлумачыла будову рака і пытае:

— Дзеці, калі рак робіцца чырвоным?

— Калі яго зварaць, калі зварaць!

— Дзеці! А чаму ў рака вочы лупатыя?

Дзеці маўчаць. Руку падымае Вовачка. Настаўніца, падумаўшы крыху, усё ж дазволіла яму сказаць. Вовачка:

— Марыя Іванаўна, здаецца мне, што гэты рак усё-такі бачыў, як кіт камбалу гвалціў.

### НЕ ТОНКАЕ, А РВЕЦЦА

І дзе купіць кашулю,
Кашулю-вышыванку?..
Ніхто пасля матулі
Не зваў мяне Іванкам.

Надысь збіраў суніцы —
Прытупаў да крыніцы:
Укленчыў, каб напіцца, —
Ні кропелькі вадзіцы.

Свірэпа глушыць грэчку,
А нам і гора мала!..
Гаротная Цна-рэчка
Канавай бруднай стала.

Павысеклі бярозы
Таполі пасадзілі...
Авёс укралі з воза,
А не лягчэй кабыле.

Усё не так, як трэба:
Не тонкае, а рвецца.
Не дасць Канада хлеба —
Памерці давядзецца...

**ІВАН ЛАГВІНОВІЧ**







Малюнак М. Лезінай

### НЕ РАЗГУБІЎСЯ

На паўсагнёных, гусінай хадой, Саўкін пёр да лазу ў заводскім плоце. Рукзак з пакецікамі масла цягнуў валокам па пяску.

„Ну, дзякуй Алаху, здаецца, першы рубеж узяты", — задаволена падумаў ён, адхіляючы дошку ў плоце. Прасунуў галаву — і аж заморгаў — ля лаза стаяў малады чалавек у сінім цывільным касцюме. „Няўжо з міліцыі?!"

— Ты ад Пецькі? — не разгубіўся Саўкін.

— Ад Пецькі, — пацвердзіў сіні касцюм.

— Малайчына, што не спазніўся, — пахваліў Саўкін, прапіхаючы пузаты рукзак праз дзірку. — Тут, браток, не на базары, з нашым таварам не пастаіш.

— Вядомая справа, — падтакнуў сіні касцюм і дапамог Саўкіну прапхнуць рукзак.

— Бяры і тупай па сцяжынцы, — шапнуў Саўкін, — а я маланкай па другі рукзак. У канцы сцяжынкі пачакай.

— Пачакаю, пачакаю. Не хвалюйся, — пачуў у адказ.

Саўкін асцярожненька прыставіў дошку да плота і даў такога стракача, ажно пясок з-пад ног паляцеў. Праз якія дзве хвіліны ён ужо тыкаў пад нос пропуск ахоўніку.

— Ты, дзяцел чырвонапёры, — пажартаваў ён, — у абодва глядзі! А то выцягнуць разам з маслам.

— Праходзь, праходзь! — нязносна азваўся ахоўнік. — Калі ты не сцягнеш, усё будзе цэлае.

— Ды ты не наводзь цень на чэсных людзей! За такое па новых парламенцкіх законах, ого!..

Саўкін па-сяброўску паляпаў па плячы ахоўніка і боўтнуўся за прахадную.

**МІКОЛА КАРАНЁЎ**

## АНЕКДОТЫ

— Ну, як з пабітым ? — пытае хірург асістэнта.

— У парадку. Адна рана смяротная, а іншыя можна вылечыць.

* * *

У час палёту сцюардэса частуе рымскага папу бутэрбродамі. За ёй другая з чаракамі:

— А можа, святы ойча, нешта вып'еце?

— А скажыце мне, як высока мы ўзняліся?

— Восем тысяч метраў ад зямлі.

— Тады дзякую. Надта блізка майго шэфа.

* * *

— На сёмай старонцы не закахаліся, на пятнаццатай не пацалаваліся... І гэта сучасны раман?!

* * *

Андрэй позним вечарам вяртаецца дамоў. Жонка дакарае:

— Дзе ты быў і што рабіў да гэтай пары?!

Андрэй выкручваецца.

— Мяне не ашукаеш! — крычыць злосна жонка. — Трэба было ажаніцца з дурнейшай!

— Калі дурнейшай не знайшоў, — адказаў Андрэй.

* * *

— Божа мой, які цудоўны ў вас хлопчык! Ён, напэўна, падобны на бацьку?

— О так, хлопчык выліты бацька. Толькі прозвішча ў яго іншае.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

## РАЗЕТКА НА „М"




**Управа:** 1) прыцягвае жалеза, 2) Лёнік Тарасэвіч, 3) рыба з тузам у канцы, 4) расейскі паэт, які многа цікавага напісаў дзецям (пачынаецца маршам), 5) паміж Чэхіяй і Славакіяй, 6) найхутчэй, то ён апошнім будзе, 7) цуркае з цыкці, 8) у гультая на далонях пасля работы.

**Улева:** 1) мастацтва, якое слухаем, 2) у ёй ляжыцца бясконца доўга, 3) працуе на бойні, 4) атрыбут дэлегата на з'езд, 5) горная парода для выкарыстання ў архітэктуры і скульптуры, 6) Георгі Жукаў, 7) расце на градцы, 8) жэніцца.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 21 н-ра. Управа:** вакзал, Валынь, возера, вандал, вятрак, ворыва, Вільня, версія. **Улева:** варона, выклік, вулкан, вязень, Венера, вітраж, вэрхал, волава.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.

**Ніва**

**„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33**
**Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.**

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100 % i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.